№ 82 (4027)

20 кастрычніка 2015 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

Якуб КОЛАС

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

БЛІЦ

## Даст ли А.Лукашенко звание «Герой Беларуси» лауреату Нобелевской премии писательнице Светлане Алексиевич?



**Наталья АДАМОВИЧ, научный сотрудник:**
– Ответить коротко не могу. Президент – человек непредсказуемый, если на него давят – будет делать наоборот. И потом: а надо ли давать? Награды так девальвированы…

**Юлия ЧЕРНЯВСКАЯ, культуролог, писатель:**
– Думаю, что нет.

**Анатолий ЛЕБЕДЬКО, лидер Объединенной гражданской партии:**
– Я скорее поверю, что президент даст вторую звезду Героя бывшему банкиру Петру Прокоповичу, нежели Светлане Алексиевич.

**Игорь БОБКОВ, философ, писатель:**
– Вы думаете, я шаман или гуру? У меня таких способностей нет.

**Юрий ХАЩЕВАТСКИЙ, кинорежиссер:**
– Думаю, не даст. После того, как Светлана высказала свое недвусмысленное мнение о президентских выборах и сфальсифицированных результатах явки, он не сможет этого сделать.

**Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК, паэт:**
– Без каментарыяў. Не хачу на гэту тэму нават думаць.

**Мария ВОЙТЕШОНОК, писатель:**
– Я не знаю, да и это уже формальность. По-моему, героя Светлане уже дали люди. Я слышу от многих: нобелиатство Алексиевич – это всенародный праздник. Светлана звонила вчера из Польши и рассказала, что не успела спуститься с трапа самолета, как ее догнали и вручили подарок: «От польского экипажа!» В Кракове, куда она приехала на книжную ярмарку, ее поселили в президентский номер отеля, весь убранный живыми цветами. Искренняя реакция людей и есть самая большая награда.

**Елена МОЛОЧКО.**

ОТКРЫТЫМ ТЕКСТОМ

# Вернуть людям право выбора!

## Заявление политических партий и движений

Констатируя, что белорусский народ сегодня лишен права управлять своей страной через свободные и справедливые выборы,

Принимая во внимание, что миссии международных наблюдателей БДИПЧ ОБСЕ и ПАСЕ, а также независимые белорусские наблюдатели пришли к выводу, что президентские выборы 2015 г. не соответствовали международным стандартам, и тем самым не признали легитимными итоги президентской кампании,

политические партии и движения Беларуси требуют обеспечить условия для проведения честных и свободных выборов:

1.прекратить преследования политических оппонентов, в том числе по месту учебы и работы, гарантировать безопасное возвращение политических эмигрантов, реабилитировать граждан, осужденных по политическим мотивам, и отменить ограничения их прав;

2.зарегистрировать все общественные объединения и политические партии, которым по надуманным предлогам отказывалось в регистрации, внести в законодательство необходимые и признанные международными организациями изменения, упрощающие процедуру регистрации структур гражданского общества, отменить статьи 193-1 и 369-1 Уголовного Кодекса Республики Беларусь;

3.создать равные условия деятельности государственных и негосударственных средств массовой информации, упростить систему их регистрации, отменить незаконные ограничения на издание и распространение независимых СМИ;

4.внести в избирательное законодательство и реализовать на практике нормы и правила, гарантирующие:

1) безусловное включение представителей политических партий, участвующих в выборах, в избирательные комиссии всех уровней;

2) право наблюдателей получать любую информацию, касающуюся выборов, видеть содержимое избирательных бюллетеней, фиксировать процесс подсчета голосов имеющимися в их распоряжении средствами, а также получить официальную копию протокола;

3) отмену института досрочного голосования, а также голосования на дому как отработанного инструмента многолетних фальсификаций выборов в Республике Беларусь;

4) возможность ознакомиться всем желающим с результатами голосования на всех без исключения участках для голосования;

5) публикацию данных голосования с разбивкой по избирательным участкам;

6) право судебного обжалования любых решений избирательных комиссий всех уровней и наделение судебных органов правом отмены результатов выборов.

Демократические партии и движения Беларуси призывают международное сообщество:

1.использовать все имеющиеся возможности для содействия в практической реализации пунктов данного заявления;

2.напрямую увязать вопрос о полном снятии визовых и финансовых ограничений в отношении Александра Лукашенко и его окружения с изменением Избирательного кодекса и проведением честных, свободных парламентских выборов в 2016 году.

Демократические партии и движения Беларуси предлагают:

– создать для практической реализации предложений по изменению избирательного законодательства совместную рабочую группу из представителей политических партий и органов государственной власти.

Демократические партии и движения Беларуси заявляют:

– о начале кампании «За честные свободные выборы» и призывают граждан Республики Беларусь принять активное участие в мероприятиях и действиях, направленных на практическую реализацию данного Заявления, что позволит им принять реальное участие в избрании легитимного Парламента Беларуси в 2016 году.

**Александр БУХВОСТОВ, оргкомитет по возобновлению деятельности Партии труда,**

**Ирина ВЕШТАРД, Белорусская социал-демократическая партия (Громада),**

**Елена ЕСЬКОВА, оргкомитет по возобновлению деятельности партии женщин «Надзея»,**

**Дмитрий КУЧУК, Белорусская партия зеленых,**

**Анатолий ЛЕБЕДЬКО, Объединенная гражданская партия,**

**Владимир НЕКЛЯЕВ, экс-кандидат в президенты,**

**Павел СЕВЕРИНЕЦ, оргкомитет по созданию партии «Белорусская христианская демократия»,**

**Николай СТАТКЕВИЧ, экс-кандидат в президенты.**

*Документ открыт для подписания.*

SOS!

## Дрэнныя навіны

13 з 16 галін беларускай прамысловасці за 8 месяцаў гэтага года, паводле дадзеных свежай статыстыкі, спрацавалі са стратамі. У некаторых галінах стратнымі аказаліся больш за 50% прадпрыемстваў.

У параўнанні з 2014-м у гэтым годзе палепшылі фінансавыя паказчыкі толькі дзве галіны прамысловасці – хімічная і нафтаперапрацоўчая.

## Печальный прогноз

**Леонид ЗЛОТНИКОВ,** кандидат экономических наук, доцент, утверждает, что в прошедшей пятилетке – между президентскими выборами 2010-го и 2015 годов – началась вторая волна потери конкурентоспособности белорусской обрабатывающей промышленности.

– *Первая волна – это прекращение производства белорусских компьютеров, приборов, станков с ЧПУ и так далее, которые на самом деле были топорной имитацией высокотехнологичной техники, выпускаемой на Западе, и которые не выдержали конкуренции после распада СССР,* – говорит Леонид Злотников. – *Сейчас наступило время ухода со сцены производств более низкого технологического уклада (автомобили, трактора, товары органической химии и так далее), вызванного неспособностью командной экономики вписаться в новый виток интернационализации производства, поддерживать конкурентную среду внутри страны.*

АКЦЫЯ

# Статкевіч запрашае на ланцуг памяці ахвяр сталінізму

Кандыдат у прэзідэнты 2010 года, былы палітвязянь Мікалай Статкевіч запрашае беларусаў сабрацца 29 кастрычніка каля будынкаў Камітэта дзяржаўнай бяспекі і Міністэрства ўнутраных спраў.

Пра мэту акцыі Мікалай Статкевіч напісаў на сваёй старонцы ў "Фэйсбуку":

*«29 кастрычніка – чорная дата беларускай гісторыі. У гэты дзень 1937 года НКВД расстраляла больш за 100 дзеячаў нашай культуры, пераважна пісьменнікаў. Сталінскія каты ведалі, што рабілі. Менавіта «людзі слова» ствараюць духоўны падмурак нацыі, без якога яна ператвараецца ў статак. Мы вінаватыя перад нашымі пакутнікамі, бо каты, якія знішчылі іх і сотні тысяч іншых беларусаў, дагэтуль не асуджаны і лічацца героямі. Таму сучасныя нашчадкі катаў смела ідуць іх шляхам. Ізноў яны ў сваіх турмах катуюць патрыётаў Беларусі. Калі грамадства забываецца пра свае трагедыі, яны могуць паўтарацца.*

*Заклікаю тых, хто гатовы, прыйсці 29.10 у 18.30 да сцен будынкаў КДБ і Міністэрства ўнутраных спраў на праспекце Скарыны, каб са свечкамі ў руках стварыць ланцуг памяці ахвяр сталінізму і нагадаць нашчадкам іх катаў пра адказнасць за злачынствы».*

КАМЕНТАРЫЙ ЮРЫСТА

## «Супрацоўнікі міліцыі могуць ажыццяўляць затрыманні ўсіх, хто сабраўся на акцыю»

***Чым можа абярнуцца для Статкевіча і тых беларусаў, якія стануць у ланцуг памяці, удзел у такім мерапрыемстве?***

– Паводле беларускага заканадаўства, для правядзення масавых акцый трэба браць дазвол Мінгарвыканкама, – тлумачыць юрыст ліквідаванага праваабарончага цэнтра «Вясна» **Валянцін Стэфановіч**. – Арганізатары мусяць падаць заўку за 15 дзён да правядзення акцыі – уся працэдура апісана ў Законе аб масавых мерапрыемствах.

Вядома ж, мы, праваабаронцы, больш шырока глядзім на гэтую сітуацыю. Мы сыходзім з таго, што грамадзяне нашай краіны маюць права на свабоду мірных сходаў, калі такія мерапрыемствы не парушаюць грамадскі парадак, не ўяўляюць сабой пагрозы грамадскай і нацыянальная бяспецы. Мы не лічым, што ёсць падстава для ўмяшальніцтва ў такую акцыю з боку сілавых структур. Хаця, канешне, арганізатары акцыі могуць быць прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці за парушэнне працэдуры правядзення мерапрыемства.

**– А людзей, якія стануць у ланцуг памяці, могуць затрымліваць?**

– Усе, хто бярэ ўдзел у несанкцыянаваных сходах, парушаюць Закон аб масавых мерапрыемствах. Адказнасць прадугледжваецца як для арганізатараў, так і для ўдзельнікаў акцыі. У адносінах да іх могуць складаць пратаколы паводле артыкула 23.34 Адміністрацыйнага кодэкса. Умоўна кажучы, супрацоўнікі міліцыі могуць ажыццяўляць затрыманні ўсіх, хто сабраўся на акцыю.

**– А чым гэта можа пагражаць асабіста Статкевічу? З моманту яго вызвалення гэта можа быць чацвёртае адміністрацыйнае пакаранне…**

– Гэта ёсць падстава для таго, каб суд распачаў справу аб устанаўленні прэвентыўнага нагляду ў дачыненні да Статкевіча – даволі жорсткіх абмежавальных нормаў, калі чалавек не можа наведваць шэраг публічных месцаў, не кажучы пра правядзенне нейкіх акцый, тры разы на месяц ён мусіць адзначацца ў міліцыі і гэтак далей. А ўжо за парушэнне прэвентыўнага нагляду прадугледжваецца крымінальная адказнасць – ад 6 месяцаў арышту да года пазбаўлення волі. Але я спадзяюся, што нашым уладам хопіць розуму гэтага не рабіць. Тым больш што сітуацыя з масавымі акцыямі, якія праходзілі напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў, паказала, што нічога страшнага не адбываецца, калі грамадзяне мірна выходзяць на вуліцу і выказваюць сваё меркаванне.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

СІТУАЦЫЯ

# «З іх вырастуць сапраўдныя беларускія афіцэры…»

*Днямі ў суполцы "Мая краіна Беларусь" на старонцы "ВКонтакте" з'явілася фота, на якім кадэты з Ястрамбельскай школы-інтэрната сфатаграфаваліся ў майках з нацыянальным беларускім гербам "Пагоня". І пайшоў рэзананс…*



Здавалася б, нічога крымінальнага ў гэтым няма. Сімволіка не забароненая, герб афіцыйна прызнаны нацыянальна-культурнай каштоўнасцю.

Аднак пасля таго, як фота "разляцелася" ў Інтэрнэце, удзельнік фатаграфання распавёў журналістам, што адзін з кадэтаў быццам бы ўжо адлічаны, а астатніх збіраюцца адлічыць. Таксама з'явілася непацверджаная інфармацыя, што ў школе-інтэрнаце з гэтай нагоды прайшоў сход, на якім настаўнікі даводзілі, што хлопцы сфатаграфаваліся ў *«майках з фашысцкай сімволікай»*.

Пазней стала вядома: пытанне з адлічэннем не вырашана, а дырэктар навучальнай установы, маўляў, наогул заступаўся за ўдзельнікаў фатаграфавання.

*"Гэта не яго ініцыятыва была* (маецца на ўвазе выключэнне са школы. – **Аўт.**), – распавёў адзін з кадэтаў. – *Яму тэлефанавалі аднекуль зверху. Ён за нас заступаўся, бараніў. Казаў, што мы добрыя хлопцы, кадэты. Ён не адракаўся ад нашага сябра".*

Паводле слоў суразмоўцы, афіцыйна пра адлічэнне ніхто не казаў. Ішла гаворка пра магчымы перавод на ранейшыя месцы вучобы.

Выпадак набыў вялікі водгук сярод грамадскасці. Кадэтаў падтрымалі не толькі аднагодкі ў вучылішчы, але і многія вядомыя людзі.

16-гадовыя хлопцы-кадэты, якія апранулі майкі з «Пагоняй», – *"як зорачкі, свецяць у цемры. З іх вырастуць сапраўдныя беларускія афіцэры, якімі Беларусь можа ганарыцца"*, – так ацаніла ўчынак навучэнцаў нобелеўскі лаўрэат па літаратуры **Святлана АЛЕКСІЕВІЧ**.

*"Гэтыя хлопцы – першыя парасткі сапраўды беларускага, а не савецкага войска*, – напісаў паэт **Уладзімір НЯКЛЯЕЎ**. – *У іх вачах, на іх юначых тварах тое, на што многія з нашых суайчыннікаў пачалі забывацца: годнасць! І ў рэшце рэшт перамогуць яны, а не тыя, хто, магчыма, хацеў пакараць іх за патрыятызм, за адкрыта выяўленую любоў да Бацькаўшчыны. Жыве Беларусь! І жыве яна ў беларусах..."*

Дакладна нельга сказаць, якую ролю адыграў у справе грамадскі рэзананс, але ўчора дырэктар Ястрамбельскай школы-інтэрната **Аляксандр КАЛЬКО** распавёў "Народнай Волі", што *"ўсе кадэты вучацца, усе жывыя і здаровыя"*.

– Больш самі журналісты гэту гісторыю прыдумалі, – абураецца Аляксандр Сцяпанавіч. – Я не разумею, за што можна было хлопцаў адлічаць. Нам такі піяр і такія сенсацыі не патрэбны.

**– Але дыму без агню, напэўна, не бывае. Пайшла ж інфармацыя пра адлічэнне кадэта…**

– Паўтаруся: гэта вам да сваіх калег за каментарыем трэба звяртацца, якія такое напісалі. А я больш нічога казаць не буду. Усе кадэты вучацца – і кропка!

У гэтай справе да рэпрэсій справа не дайшла. А калі б кадэтаў пакаралі?

*"Гэта азначала б адно: выбары прайшлі, а краіна вяртаецца да рэпрэсій*, – лічыць пісьменнік **Віктар КАЗЬКО**. – *Маўляў, карт-бланш атрыманы, а таму забудзем пра паслабленні і розныя вольнасці. І будзем мы ў сваім старым рэчышчы жыць, як набяжыць. Увогуле, беларускаму народу не даюць адчуць самога сябе. Народам, які не ведае свайго мінулага, кіраваць куды больш лёгка".*

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

СТАРОНКІ ГІСТОРЫІ

# Крывавая ноч

*Такога дзікунства не ведае гісторыя ніводнай еўрапейскай краіны: у Беларусі ў адну ноч з 29 на 30 кастрычніка 1937 года ў сутарэннях мінскай унутранай турмы НКВД былі расстраляны больш за 100 прадстаўнікоў інтэлектуальнай эліты БССР – літаратары, дзяржаўныя дзеячы і навукоўцы.*

Сярод іх літаратары Алесь Дудар, Валерый Маракоў, Міхась Чарот, Ізі Харык, Платон Галавач, Міхась Зарэцкі, Янка Нёманскі, Юлій Таўбін, Анатоль Вольны, Хацкель Дунец, Васіль Каваль, Тодар Кляшторны, Масей Кульбак, Юрка Лявонны, Якаў Браніштэйн і іншыя (агулам – 22 чалавекі), наркамы асветы і юстыцыі БССР Аляксандр Чарнушэвіч і Максім Ляўкоў, рэктар БДУ Ананій Дзьякаў, дырэктар трэста "Галоўхлеб" БССР Георгій Барзуноў, загадчык кафедры Віцебскага ветэрынарнага інстытута Якаў Сандамірскі, начальнік Вышэйшай школы Наркамата асветы БССР Вадзім Башкевіч, старшыня ЦК прафсаюзаў БССР Захар Кавальчук, намеснік Наркамата саўгасаў БССР Леанард Лашкевіч, студэнт БДУ Саламон Лямперт...

Літаральна на наступны дзень смяротны прысуд быў дзейснены ў дачыненні да чарговай "партыі" "ворагаў народу": наркама ўнутранага гандлю Нохіма Гурэвіча, палкавога камісара 16-га стралковага корпуса Івана Паплыкі, прафесара Віцебскага ветэрынарнага інстытута Івана Троіцкага, пробашча касцёла кармелітаў у Чавусах Паўла Казюнаса, праваслаўнага святара Аляксандра Раеўскага і яшчэ 30 чалавек.

Толькі ў перыяд са жніўня 1937-га па снежань 1938 года, які атрымаў назву "крывавы тунель смерці", чэкісты пазбавілі жыцця звыш 10 тысяч грамадзян Беларусі.

ПРЯМАЯ ЛИНИЯ

## Не чихать на простуду

Осень – пора простуд и плохого самочувствия. Медики утверждают, что в это время вирусными инфекциями мы болеем в два раза чаще обычного.

**Откуда появляется простуда?**

**Как отличить простуду от гриппа?**

**Как обезопасить себя от вирусов осенью?**

**Стоит ли прививаться от гриппа?**

**Что делать, если все-таки заболел?**

На эти и другие вопросы на «Прямой линии» ответит заведующая терапевтическим отделением медицинского центра «ЛОДЭ», врач 1-й категории **Людмила Андреевна ГУЛЕВИЧ.**



Звоните **27 октября с 15.30 до 16.30 по телефону 328-68-41.**

Присылайте свои вопросы заранее по электронной почте **nvonlineinfo@gmail.com** с пометкой «Прямая линия».

НАДВОР'Е

## Дажджы, дажджы, дажджы…

Сёння, 20 кастрычніка, будзе воблачна з праясненнямі. Днём пераважна па паўднёва-заходняй палове краіны магчымы дажджы. Тэмпература будзе 5–11 градусаў вышэй за нуль. Ноччу ў некаторых раёнах туман. Тэмпература ад 1 да 7 градусаў цяпла, месцамі – да 3 марозу.

Самая непагадзь на гэтым тыдні будзе ў сераду і чацвер. *«Віной таму цыклон, які будзе праходзіць уздоўж паўднёвых межаў краіны: часамі будуць ісці дажджы, ва ўсходніх раёнах краіны – з мокрым снегам»,* – растлумачыў начальнік службы гідраметэаралагічных прагнозаў Рэспубліканскага цэнтра па гідраметэаралогіі, кантролі радыеактыўнага забруджвання і маніторынгу навакольнага асяроддзя **Дзмітрый Рабаў.** Тэмпература паветра ў сераду ноччу чакаецца ад 1 да 8 градусаў цяпла, па паўночным усходзе – 0...-3 градусы, удзень – ад 2 да 9 градусаў вышэй за нуль.

У чацвер ноччу будзе ад 0 да плюс 6 градусаў, днём – 2–9 градусаў цяпла. У пятніцу 23 кастрычніка надвор'е будзе вызначаць атмасферны фронт з Заходняй Еўропы, ён прынясе на большую частку тэрыторыі кароткачасовыя дажджы. Тэмпература паветра ўначы складзе плюс 2–7 градусаў, днём – ад 5 да 11 градусаў цяпла. У выхадныя дні з ростам атмасфернага ціску дажджоў стане менш.

Народная Воля http://www.nv-online.info
20 КАСТРЫЧНІКА 2015 г.

АНТЫРЭКАРДСМЕНЫ

# Ідэальныя выбаршчыкі – у дэпрэсіўных раёнах

Некаторыя лічбы, агучаныя Цэнтрвыбаркамам, сапраўды ўражваюць. Як аказалася, некаторыя рэгіёны Беларусі аказаліся блізкімі да 100-працэнтнай падтрымкі Аляксандра Лукашэнкі. А гэта значыць, што ў выбарчы тыдзень людзі не ад'язджалі ў госці, на заробкі ці ў адпачынак, што галасавалі і непрытомныя, і тыя, хто знаходзіцца ў запоі, – карацей, амаль усе. Прычым, галасавалі амаль аднадушна, чаго, паводле сцвярджэнняў навукі, не бывае ў прынцыпе.

Дык хто ж стаў рэкардсменам, даўшы яўку больша за 99%? Хаця, канешне, больш правільна тут гаварыць пра антырэкорд…

На першым месцы аказаўся Бешанковіцкі раён. Тут, згодна з афіцыйнымі звесткамі, прагаласавалі (увага!) 99,21% выбаршчыкаў. З іх 96% аддалі свае галасы (згодна з усё тымі ж афіцыйнымі звесткамі) за Аляксандра Лукашэнку.

Не нашмат адсталі на роднай для кіраўніка дзяржавы Магілёўшчыне. Неверагодную актыўнасць, згодна з афіцыйнай інфармацыяй, прадэманстравалі жыхары Чэрыкаўскага раёна. Яўка тут склала 99,17%! Пры гэтым Аляксандра Лукашэнку падтрымалі 92,5 працэнта выбаршчыкаў. Карацей, да поўнай аднадушнасці не дацягнулі зусім крыху.

Прычым цікава, што ў гэтых рэгіёнах незалежных назіральнікаў практычна не было. Тут можна было і за 100% лічбы пісаць – ніхто б не аспрэчыў.

Лідар Аб'яднанай грамадзянскай партыі **Анатоль ЛЯБЕДЗЬКА** не мае сумневу, што актыўнасць тут праявілі не столькі выбаршчыкі, колькі чыноўнікі.

– *Трэба да такіх лічбаў ставіцца як да анекдота,* – лічыць палітык. – *Бо, паводле ўсіх аб'ектыўных паказчыкаў, у такіх раёнах мусіць быць нейкі пратэст ці галасаванне "супраць усіх", бо раёны-рэкардсмены па большасці сваёй дэпрэсіўныя. А мы, наадварот, маем вось такія з'явы – амаль усе нібыта галасавлі "за". Канешне, быць такога не можа. Думаю, папросту чыноўнікам, якія ў дэпрэсіўных рэгіёнах з'яўляюцца галоўнымі "вертыкальшчыкамі", надакучыла там жыць. Яны спрабуюць праявіць сябе на выбарах, каб змяніць месца працы, атрымаць павышэнне, пераехаць у больш прывабныя месцы. Даць 100 працэнтаў яўкі – гэта як намалаціць 100 тон зерня з аднаго гектара! І, маючы такія паказчыкі, ужо можна на добрыя пасады прэтэндаваць, пераехаць у горад, жонцы ужо будзе куды апранаць сукенкі, набытыя за мяжой… Карацей, гэтыя неверагодныя лічбы раю ўспрымаць толькі як пазёрства чыноўнікаў, якія такім чынам спрабуюць вырвацца з дэпрэсіўных раёнаў і наладзіць сваё асабістае жыццё.*

**Любоў ЛУНЁВА.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ



# «Мне хацелася плакаць…»

*Уражанні маладога магілёўскага юрыста, якая ўпершыню паспрабавала сябе ў якасці назіральніка на выбарах прэзідэнта Беларусі.*

Стаць назіральнікам на выбарах прапанаваў мой лепшы сябар. Падумала: чаму не? Мне было цікава, ці сапраўды ў нас усё так дрэнна, як распавядаюць іншым разам тыя ж праваабаронцы, апазіцыйныя журналісты. У выніку я атрымала акрэдытацыю як назіральнік ад РПГА «Беларускі Хельсінкскі камітэт» на выбарчы ўчастак №117, які месціўся ў абласным Доме культуры. Са мной таксама быў назіральнік ад Магілёўскага праваабарончага цэнтра Барыс Леанідавіч Бухель. Ён адкрыў мне вочы на вельмі многія моманты ў нашай дзяржаве і, у прыватнасці, у выбарчай сістэме, за што яму вялікі дзякуй!

Сядзець было не сумна. Людзі з камісіі ўсім складам працуюць на ААТ «Магілёўхімвалакно». Падчас датэрміновых выбараў, калі выбаршчыкаў было няшмат, яны ахвотна размаўлялі паміж сабой і з намі. Многія скардзіліся, што на прадпрыемстве зараз маленькія зарплаты, скарочаныя працоўныя тыдні. Некаторыя нават прасілі ў Барыса Леанідавіча ці мяне парад па пытаннях, якія тычацца працоўных адносін. Мне здаецца, такія размовы патрэбны: пастаянна размаўляючы з людзьмі і даючы ім магчымасць распавесці аб тым, дзе парушаюць іх правы, як іх падманвае дзяржава і чыноўнікі, як адбываюцца фальсіфікацыі на выбарах, можна дабіцца таго, што самі яны не будуць парушаць кодэксы і законы. Хоць парадокс у тым, што многія з іх сапраўды лічаць, што тое, што яны робяць, законна і нармальна.

## Фальсіфікацыі

З аўторка па суботу, падчас датэрміновых выбараў, мы праз кожныя дзесяць подпісаў звяраліся з дадзенымі камісіі, і ў нас усё супадала. Увечары 10 кастрычніка мы налічылі, што прагаласаваць датэрмінова вырашылі 370 чалавек. Шчыра кажучы, я была натхнёная, мне было неяк добра: камісія была прыязнай, усё чысценька, ніякага падману. І тут старшыня камісіі вывешвае выніковы пратакол. А там – 565 чалавек. Яны тупа дапісалі лішнія 195 чалавек, якіх не было і ў паміне. Я была ў шоку. Мне было брыдка, мяне трэсла, я была злая, расчараваная і наогул... не ведаю, як гэта апісаць. Людзі табе ўсміхаюцца, а потым, гледзячы ў вочы, робяць з цябе дурылку. Я пачала нешта казаць, ледзь не крычаць, але старшыня камісіі адводзіў вочы і ўцёк адтуль.

Калі я ішла дадому, мяне ажно ванітавала, і плакаць хацелася ад крыўды. Ну вось навошта ім гэта? Навошта яны бяруць грэх на душу, калі іх кандыдат і так відавочна выйграе выбары? Хоць, як я зразумела з іх размоў, большая частка камісіі не ўдзельнічала ў гэтым – толькі старшыня, яго намеснік і сакратар. Астатнія нават дзівіліся лічбе ў 565 чалавек.

## Галасаванне па хатах

Супакоілася я толькі на наступную раніцу, у асноўны дзень выбараў. Мы дамовіліся з Барысам Леанідавічам, што ён увесь дзень прасядзіць на ўчастку, а я яшчэ паеду са старшынёй камісіі на выязное галасаванне – да пенсіянераў, інвалідаў, увогуле тых, каму складана прыйсці на ўчастак. І тут быў трэш!

Усе пагалоўна – за Лукашэнку. У прынцыпе, гэта іх справа, на тое гэта і выбары, каб кожны аддаў голас за таго кандыдата, за якога хоча. Але тое, як гэта адбывалася...

Прыехалі да адной бабулькі. Яна бярэ бюлетэнь, ставіць птушачку і пытаецца, а ці можна ёй напісаць слова «пажыццёва». Іншая сказала, што калі не за Аляксандра Рыгоравіча, дык яна галасавала б за Коленьку. Дзядуля адзін, калі яму далі бюлетэнь, убачыў прозвішча Гайдукевіча і стаў лаяцца і патрабаваць, каб яму далі падпісаць паперу за Лукашэнку. Вядома, мы яму паказалі, дзе знаходзіцца графа яго кандыдата.

Усе гэтыя людзі не проста падтрымліваюць дзеючага прэзідэнта – яны як фанатыкі.

Быў на ўчастку пацешны выпадак. Прыйшла бабуля. Відаць было, што ёй цяжка хадзіць. Яна павольна падышла да камісіі, узяла бюлетэнь, таксама павольна пакрочыла ў кабінку. Выйшла. Дайшла да скрыні. І перахрысціла яе. Тройчы. Толькі пасля гэтага яна кінула свой бюлетэнь унутр.

## Падлік галасоў

У канцы дня, калі ўжо быў падлік галасоў, мы думалі, што яго будуць праводзіць адкрыта – паказваць назіральнікам па адным бюлетэні і лічыць іх. Заяву на гэта напісаў назіральнік ад АГП. Старшыня нават сказаў сваім, каб яны схадзілі паесці, таму што могуць засядзецца і да дзвюх ночы. Дык адна жанчына завыла, што маладым добра – ад «Хімвалакна» і харчаванне бясплатнае, і два дні выхадных дадуць, а ім – пенсіянерам – толькі паесці перападзе.

Аднак у апошні момант усё змянілася – камісія проста абступіла стол і пачала «лічыць» у двукоссі. За іх спінамі мы не бачылі нічога. Перасесці ў іншае месца, адкуль бы адкрываўся від на падлік галасоў, нам не дазволілі. У выніку, як я ўжо і чакала, у нас зноў было разыходжанне: паводле нашых падлікаў галасаваць прыйшло 872 чалавекі, а ў пратаколе пазначылі 1175. Ізноў было не вельмі прыемна, але іншага ад іх я ўжо і не чакала, калі шчыра. Калі я сыходзіла адтуль, сказала старшыні Яўгену Аверкіну, што, спадзяюся, спаць ён будзе добра і сумленне яго не замучыць.

## На працы

Калі я на наступны дзень прыйшла на працу, усе ўжо ведалі, што я была назіральнікам. Прычым нават ведалі, што ад БХК. Ніякіх прэтэнзій да мяне не было, пыталіся толькі, ці былі парушэнні. Я сказала, што былі. Калегі рабілі круглыя вочы і дзівіліся. Некаторыя з іх таксама сядзелі на ўчастках – хто ў камісіі, хто назіральнікам. І вось мне адна такая дзяўчына кажа: выбары прайшлі добра, фальсіфікацый не было, яўка высокая. А потым выдае: за Караткевіч было шмат галасоў, так я прапанавала сапсаваць гэтыя бюлетэні.

Дзіва дзіўнае: чалавек кажа, што фальсіфікацый не было, а потым сам прызнаецца, што ледзь да гэтага не дайшло? А не дайшло таму, што старшыня камісіі адмовіўся і ўсё палічылі дакладна. Ну, паводле яе слоў...

## Што далей

Я хачу і далей быць назіральнікам. Я не ведаю, што будзе з краінай, якімі будуць людзі на наступных выбарах, якой буду я. Але зараз усведамляю: тое, што мы робім падчас назірання, – гэта важна. Народ не павінен хадзіць у дурнях, павінны быць людзі, якія дапамагаюць самой сістэме рабіцца лепш. І калі не я, дык хто? Маладым у гэтай краіне жыць, ім жа вырашаць, у якіх умовах яны будуць гэта рабіць.

**Наста ТАРАСЕНКА.**

### Пра аўтара

Насце Тарасенка 23 гады. Юрыдычную адукацыю яна атрымала ў Беларускай дзяржаўнай сельскагаспадарчай акадэміі (г.Горкі), цяпер адпрацоўвае размеркаванне на адным з аграпрамысловых комплексаў Магілёўскай вобласці.

ПОСТФАКТУМ

# Галасаванне… фігай

Амаль з усіх выбарчых участкаў, якія былі створаны ў бальніцах, прыйшлі звесткі пра 100-працэнтны ўдзел выбаршчыкаў у галасаванні. Што не можа не выклікаць здзіўлення, бо ёсць жа непрытомныя хворыя, ёсць тыя, хто дзень правёў пад наркозам ці адыходзячы ад накрозу. Як жа так здарылася, што прагаласавалі ўсе?

Расказвае відавочца, актывіст ГА "Таварыства беларускай мовы" **Ян Грыб.** У асноўны дзень галасавання 11 кастрычніка ён знаходзіўся ў кардыялагічным аддзяленні №3 Бальніцы хуткай дапамогі ў Мінску.

– Заходзіць дэлегацыя з пяці чалавек у белых халатах, – расказаў спадар Грыб. – Адзін вельмі салідны чалавек урачыста нясе скрыню для галасавання. Хлопцы з палаты моўчкі ўзялі бюлетэні і паклалі іх у скрыню. Дэлегацыя запытвае: "А хто ў вас Грыб?" Адказваю: "Шаноўнае спадарства! Прашу колькі хвілін вашай увагі. Па-першае, я не карыстаюся, не ведаю і не люблю расійска-маскоўскай мовы. Па-другое, грамадзянін Лукашэнка ні паводле Канстытуцыі, ні паводле маральных нормаў не мае права балатавацца. А ўсе іншыя трое – гэта фігуры, не вартыя ўвагі. Упэўнены, што ўжо ўсё падрыхтавана, Лукашэнку забяспечана чарговая «элегантная» перамога, таму я ў гэтым цырку не ўдзельнічаю, і да мяне нават не падыходзьце".

Гэтая дэлегацыя спачатку аслупянела і стаяла моўчкі, а пасля адзін нарэшце прыйшоў у сябе і кажа: "Мы зразумелі вашу пазіцыю". І ўсе выйшлі. А пасля... Цягам дня загадчыца аддзялення пяць разоў падыходзіла: "Ну Іван Іванавіч, ну прагаласуйце, калі ласка, – яны ж галаву з мяне здымуць!" Урэшце я сказаў: "Добра, толькі я на бюлетэні намалюю фігу". А яна: "Калі ласка, калі ласка! Толькі вазьміце бюлетэнь".

Я папярэдне ў блакноце павучыўся маляваць фігу, каб харошая была. Прыйшла зноў гэтая дэлегацыя, я ўзяў бюлетэнь, на іхніх вачах перакрэсліў, намаляваў фігу і апусціў у скрыню. Ярмошына палічыць гэта за Лукашэнку – няма сумневу.

Спадар Грыб мяркуе, што адміністрацыі бальніцы быў дадзены загад пра 100%-нае галасаванне хворых, і гэты працэнт яны былі вымушаны забяспечыць.

СЛОВО НЕ ВОРОБЕЙ

# Так сколько еще сроков дает Татьяна Короткевич Александру Лукашенко?

Накануне основного дня голосования кандидат в президенты Татьяна Короткевич дала интервью российскому интернет-изданию «Медуза». Один из вопросов звучал так:

**– Лукашенко не похож на человека, который уйдет с поста президента в результате выборов…**

– *Если он не хочет уходить, то у него еще есть вариант изменить свою политику,* – ответила Татьяна Короткевич. – *Мы поэтому и говорим о мирных переменах, так как видим в этом перспективу и для него в том числе. Мы предлагаем вернуться к двум президентским срокам –* ***пусть у него будет еще два срока.*** *Мы ведь не говорим, что у него нет поддержки, – при честных условиях игры он бы тоже мог победить.*



Эти слова Т.Короткевич, понятно, взорвали интернет-пространство. Как так – все знают, каким образом А.Лукашенко держался у власти более двадцати лет, а тут **«пусть у него будет еще два срока»!**

Поняв, что выдвиженка вляпалась в большой скандал, ее «куратор» Андрей Дмитриев тут же заявил, что в тексте «Медузы» допущены ошибки. И он выложил в интернет полный ответ на вопрос журналиста (аудиозапись). Читаем:

*«У него (Лукашенко) еще есть другой вариант изменить свою политику, если он не собирается уходить. Совершенно понятно, что если он не будет менять свою политику, тогда будут другие сценарии. Мы поэтому сегодня и говорим о мирном процессе и мирных переменах, потому что видим, что в этом есть перспектива и для него в том числе. Говорим:* ***«Давайте вернемся к двум срокам президентства.*** *И вот у вас, например, Александр Лукашенко,* ***будет еще два срока».*** *Мы ж не говорим, что у него совсем нет поддержки. У него есть 35%+/-5, и если бы честные правила игры, то он мог бы победить, если бы захотел. Наше предложение, одно из самых популярных, вернуть эту норму в Конституцию (ограничение двумя сроками) открывает для него возможности какого-то выхода».*

Что после этого можно сказать? Черного кобеля не отмоешь добела. И в одном, и в другом варианте говорится о еще каких-то двух сроках президентства А.Лукашенко.

Могла ли в таком случае Т.Короткевич рассчитывать на победу? Ни в коем случае. Но зато она, можно предположить, теперь может рассчитывать на подарок от А.Лукашенко в виде, скажем, мандата одной из депутатских палат.

ПАЛІТКУХНЯ

# Яшчэ не ўсе перасварыліся?

Старшыня Партыі БНФ Аляксей Янукевіч лічыць падтрымку на пачатку выбарчай кампаніі экс-кандыдата ў прэзідэнты Таццяны Караткевіч сваёй памылкай. Пра гэта ён заявіў на пасяджэнні Сойма арганізацыі, які ў мінулыя выхадныя прайшоў у Мінску.

Нагадаем, Партыя БНФ спачатку прыняла рашэнне аб падтрымцы Караткевіч на выбарах як прадстаўніка кааліцыі «Народны рэферэндум», брала ўдзел у зборы подпісаў за яе вылучэнне, аднак у канцы жніўня адмовілася ад далейшай падтрымкі Караткевіч.

– Мне казалі: няўжо ты не ведаеш, што такое «Гавары праўду!»? Зразумела, што я гэта ведаў, але ў мяне былі надзеі, што Караткевіч стане кандыдатам ад «Народнага рэферэндуму», – прызнаўся Аляксей Янукевіч. – Гэта дазволіла б захаваць баланс інтарэсаў, наладжаны ў кааліцыі. Аднак стала відавочна, што кіраўніцтва «Гавары праўду!», атрымаўшы свайго кандыдата ў прэзідэнты, было не настроена дамаўляцца.

Саму кампанію, якую праводзіла «Гавары праўду!», Янукевіч ацаніў як слабую і адарваную ад рэальнасці.

– Беларускую апазіцыю часта абвінавачваюць у тым, што яна жыве ў сваім уласным свеце. Кампанія «Гавары праўду!» таксама стварыла вакол сябе асобную рэальнасць, быццам у краіне на выбарах лічаць галасы. Раскрутка на выбарах свайго брэнда – няправільны шлях. Яны адштурхнулі ад сябе частку цвёрдых прыхільнікаў дэмакратычнага шляху развіцця краіны, – сказаў кіраўнік Партыі БНФ.

Партыя, дарэчы, на думку многіх экспертаў, з-за Караткевіч аказалася пад пагрозай чарговага расколу. Адзін з намеснікаў старшыні Партыі БНФ Ігар Лялькоў да апошняга заставаўся ў шэрагах тых, хто працаваў у камандзе Таццяны Караткевіч. І, паводле некаторай інфармацыі, на бліжэйшым з'ездзе ён будзе спрабаваць заняць месца Аляксея Янукевіча ў кіраўніцтве партыі. Так што, як казалі французы, "шэршэ ля фам"…

**Ігар МАРОЗАЎ.**

СПЕЦЫЯЛЬНЫ РЭПАРТАЖ

# «Лепш не працаваць, чым гандляваць па такіх законах»

*У мінулыя выхадныя полацкія прадпрымальнікі масава зачынілі гандлёвыя месцы*

Праверкі на рынку ў Полацку пачаліся 13 кастрычніка. Супрацоўнікаў падатковай інспекцыі і аддзела па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі цікавілі таварна-транспартныя накладныя, сертыфікаты і іншыя дакументы на тавар з Расіі. Паводле слоў полацкіх прадпрымальнікаў, купляючы тавар у Маскве, атрымаць адпаведную дакументацыю праблематычна. Там ёсць фірмы, якія існуюць толькі на паперы. Расійскіх пастаўшчыкоў не хвалююць складанасці, якія потым узнікаюць у беларускіх прадпрымальнікаў з падатковай інспекцыяй. Працаваць даводзіцца на ўмовах пастаўшчыкоў з Масквы.

– *Правяраць пачалі адразу пасля выбараў,* – распавяла "Народнай Волі" Алёна, якая таксама зачыніла свой ралет. – *Ніякія нашы аргументы нават не слухалі. У некаторых канфіскавалі цалкам увесь тавар і давалі вялікія штрафы! Да выбараў дакументацыя ўсіх задавальняла.*

У пятніцу днём пасля з'яўлення на рынку супрацоўнікаў падатковай інспекцыі прадпрымальнікі стыхійна пачалі зачыняць гандлёвыя кропкі. Баючыся за свой тавар, больш за 300 чалавек спынілі працу. Частка іпэшнікаў адразу ж накіравалася да будынка падатковай інспекцыі Полацка. Было абрана 5 дэлегатаў ад прадпрымальнікаў, якія пайшлі на абмеркаванне сітуацыі з прадстаўнікамі ўлады.

На наступны дзень людзі прыйшлі на рынак, але адчыняць ралеты ніхто не спяшаўся. Перамовы з мясцовымі ўладамі, на якія спадзяваліся прадстаўнікі малога бізнесу, ні да чаго не прывялі.

– *Паводле слоў чыноўнікаў, усё адбываецца ў рамках закона,* – кажа прадпрымальнік Ягор, які гандлюе не першы год. – *Праверкі працягнуцца. Далі зразумець, што нічога не зменіцца і трэба плаціць! Нават калі не адчыняць ралеты, усё роўна будуць правяраць.*

Адчыніць гандлёвыя кропкі ў суботу ніхто з бунтуючых іпэшнікаў так і не рызыкнуў. У размовах паміж прадпрымальнікамі часта гучалі словы: "бязмежжа", "рэкет", "дзяржава".

– *Нам сказалі: можаце закрывацца цалкам і з'язджаць працаваць у Расію,* – распавяла маладая дзяўчына, якая назвалася Ірынай. – *Маўляў, мы не так шмат прыбытку прыносім дзяржаве. Плацім працэнты, падатак... Куды яшчэ больш? Чым нам дапамагла дзяржава?*



Да эмацыянальных размоў суботняй раніцай далучаліся і мясцовыя жыхары. Расчараваныя закрыццём большасці ралетаў, адны спачувалі іпэшнікам, другія, наадварот, здзекліва ўсміхаліся. Па пакупкі многія прыехалі з суседніх вёсак.

– *Пойдзеце цяпер на завод працаваць,* – кінула ў бок прадпрымальнікаў пенсіянерка. – *Спекулянты!*

– *А вы з'ездзіце ў Маскву,* – нервова адказала іпэшніца ў сіняй куртцы. – *Знайдзіце там пастаўшчыкоў, паразмаўляйце з імі і прывязіце тавар сюды. Потым і пагутарым...*



Дзе працаваць і за што карміць сям'ю – гэта былі самыя папулярныя пытанні сярод полацкіх іпэшнікаў. Некаторыя сур'ёзна разважалі пра тое, каб закрыць бізнес. Паводле слоў бунтуючых прадпрымальнікаў, *"лепш не працаваць, чым гандляваць па такіх законах"*.

**– І што думаеце рабіць?** – цікаўлюся ў іпэшнікаў, якія стаяць вакол.

– *А што тут зробіш?* – паціскаючы плячыма, адказваюць жанчыны-прадпрымальніцы, палячы цыгарэту за цыгарэтай.

– *Добра, калі муж працуе і зможа забяспечыць сям'ю. А ёсць жа людзі, якія ўсёй сям'ёй на рынку гандлююць. Ім як? На раёне толькі "Шкловалакно" – прадпрыемства, дзе больш-менш можна працаваць, але не думаем, што нас там чакаюць...*

**– Некаторыя працягваюць і сёння працаваць...**

– *Гэта альбо занадта разумныя, альбо нахабныя людзі,* – адказала іпэшніца са стажам Алена.

Падыходжу да адчыненага ралета з адзеннем і цікаўлюся, чаму рызыкнулі працаваць падчас праверак.

– *У мяне ўсё нармальна з дакументамі, навошта мне зачыняцца?* – адказаў немалады мужчына.

**– Салідарнасць з калегамі выказаць, напрыклад...**

Бліжэй да абеду прадпрымальнікі пачалі разыходзіцца па дамах. Хтосьці збіраўся ў лес па грыбы, некаторыя спяшаліся ў лазню ці на рыбалку. Многія нават жартавалі: *"Вы ўспомніце, калі ў нас у суботу быў выхадны..."* Чарговая сустрэча, на якой прадпрымальнікі сабраліся падпісаць зварот да мясцовых чыноўнікаў, была прызначана на нядзелю.

Раніцай у нядзелю прадпрымальнікі падпісалі калектыўны зварот да полацкіх чыноўнікаў і адчынілі ралеты. Як патлумачыла карэспандэнту "Народнай Волі" прадпрымальніца Ірына, *"пачалі працаваць на свой страх і рызыку"*.

– *Падпісалі калектыўны ліст, але надзеі на яго няма,* – кажа Ірына. – *Вырашылі, што будзем дапрацоўваць да канца кастрычніка, бо выплачаны арэнда і падатак за гэты месяц. Таму і адчыніліся. З першага лістапада, калі праверка і канфіскацыя працягнуцца, мы адмовімся ад выплаты падатку і арэнды. У нядзелю рызыкнулі адчыніцца, Але, думаю, не надоўга, да прыходу падатковай...*

**– У суботу некаторыя рыхтаваліся закрываць бізнес...**

– *Хутчэй за ўсё, асабіста мне так і прыйдзецца зрабіць,* – кажа полацкая прадпрымальніца. – *Прадаць рэшткі тавару (пакуль не канфіскавалі) і шукаць іншую працу.*

**– З пастаўшчыкамі ў Маскве дамовіцца наконт дакументацыі не атрымаецца?** – пытаюся ў Ірыны.

– *Малаверагодна. Ім усё роўна, што ў нас тут праблемы. Ды і складана гэта. Прадаюць тавар кітайцы, якія па-руску не разумеюць. З цяжкасцю аб цане з імі дамаўляемся. Некаторыя спрабавалі на беларускую прадукцыю перайсці. Па-першае, дарагая, па-другое, ніхто не хоча браць. Попытам не карыстаецца. Адпрацавалі, карацей. Пайду прасіцца на працу прадаўцом у «Еўраопт», пакуль не позна...*

**Раман ВАСЮКОВІЧ.**
**Фота аўтара.**

ГУЧНАЯ СПРАВА

# Патрапіў пад амністыю…

*Спынены крымінальны пераслед у дачыненні да чалавека, які застрэліў на паляванні суддзю Вярхоўнага суда Беларусі* ***Віктара Ракіцкага.***



Нагадаем, трагедыя адбылася напрыканцы мінулага года ў Уздзенскім раёне Мінскай вобласці.

З гэтай нагоды Следчы камітэт тады распаўсюдзіў афіцыйнае паведамленне:

*“27 снежня 2014 г. разам з некалькімі жыхарамі Мінскай вобласці суддзя знаходзіўся на паляванні, падчас якога атрымаў агнястрэльнае раненне, ад якога памёр на месцы. Заведзена крымінальная справа па ч.1 арт.144 (прычыненне смерці па неасцярожнасці) Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь. Папярэдняе расследаванне ажыццяўляе галоўнае следчае ўпраўленне цэнтральнага апарату Следчага камітэта Рэспублікі Беларусь”.*

Як стала вядома пазней, пад падазрэнне трапіў экс-кіраўнік аднаго з прадпрыемстваў Узды **Мікалай Буйневіч.**

Ракіцкі і Буйневіч даўно ведалі адзін аднаго. Першы восем гадоў адпрацаваў старшынёй Уздзенскага раённага суда, апошні таксама занімаў кіруючыя пасады ў раённым цэнтры. Было і агульнае захапленне – паляванне, таму з гэтай нагоды збіраліся і пасля таго, як Ракіцкі пайшоў на павышэнне ў Мінск. Падчас апошняга палявання трагічны стрэл пазбавіў жыцця суддзю Вярхоўнага суда.

Праз нейкі час пасля здарэння Мікалая Буйневіча ўзялі пад варту, пытанняў было шмат. Напрыклад, як суддзя аказаўся на “лініі агню”? Чаму стрэльба была зараджана куляй, а не шротам, калі палявалі на зайца?

У маі *“да падазронага была прыменена мера стрымання ў выглядзе падпіскі аб нявыездзе”, а зараз справу і наогул закрылі.*

*Як паведаміў “Народнай Волі” начальнік аддзела інфармацыі і сувязі з грамадскасцю Следчага камітэта (СК) Беларусі* **Сяргей Кабаковіч**, *Галоўным следчым упраўленнем СК завершана расследаванне крымінальнай справы па факце гібелі суддзі Вярхоўнага суда Беларусі.*

*“Падчас следства ўстаноўлена, што смяротнае раненне суддзі было здзейснена падчас палявання па неасцярожнасці, у выніку парушэння правіл палявання тым, хто страляў*, – распавёў прадстаўнік Следчага камітэта. – *Мужчыны да гэтага выпадку 20 гадоў знаходзіліся ў сяброўскіх адносінах, і матываў на здзяйсненне забойства ў таго, хто страляў, не было. Мужчыне прад’яўлена абвінавачанне па ч.1 арт.144 Крымінальнага кодэкса Беларусі, віну ў здзяйсненні злачынства ён прызнаў поўнасцю. Крымінальны пераслед у дачыненні да яго спынены па прычыне акта амністыі (дасягненне пенсіённага ўзросту, а таксама на падставе таго, што ён з’яўляецца ліквідатарам катастрофы на Чарнобыльскай АЭС)”.*

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

МАЙЦЕ НА ЎВАЗЕ

# Нумар 115

З 1 лістапада ў Мінску ўводзіцца адзіны нумар 115 па пытаннях ЖКГ. Для жыхароў Партызанскага раёна ў якасці эксперымента адзіная тэлефонная лінія 115 была адкрыта на пачатку верасня. Эксперымент, мабыць, даў станоўчы эфект, і цяпер усе сталічныя жыхары змогуць вырашыць свае пытанні наконт ЖКГ па гэтым нумары.

*«За першы месяц працы, з 8 верасня па 8 кастрычніка, паступіла больш за 8,5 тысячы званкоў,* – распавёў агенцтву «Мінск-Навіны» начальнік упраўлення кантакт-цэнтра ЖКГ Мінска **Ігар Кірыленка.** – *Пікавы час прыходзіцца на ранішнія гадзіны, прыкладна з 5.00 да 11.00, і вячэрнія – з 16.00 да 23.00. Мы не чакалі, што адзіны нумар будзе настолькі запатрабаваны, пры тым што жыхары Партызанскага раёна могуць па-ранейшаму звяртацца ў дыспетчарскія ЖЭС і ЖЭУ».*

З 1 лістапада бягучага года нумар 115 стане агульнагарадскім, па ім змогуць звяртацца па пытаннях ЖКГ жыхары ўсіх раёнаў сталіцы. На першых часах гараджане змогуць тэлефанаваць і ў дыспетчарскія жыллёвых службаў, але потым тыя стануць прымаць заяўкі толькі ад аператараў кантакт-цэнтра.

Зараз у кантакт-цэнтры працуюць толькі 6 аператараў, але колькасць працоўных месцаў будзе значна павялічана, а да канца года дзяжурыць на тэлефонах будуць адначасова каля 90 аператараў. Прыёмам і апрацоўкай зваротаў, якія не патрабуюць аператыўнага рэагавання, стануць займацца больш за 130 спецыялістаў. Іх задача – зарэгістраваць заяўку, перадаць яе жыллёвай службе па тэрытарыяльнай прыналежнасці, пракантраляваць выкананне работ і выкананне ўстаноўленых тэрмінаў, паведаміць заяўніку пра вынік. Яшчэ 36 спецыялістаў адзінай дыспетчарскай службы будуць адказваць за выкананне аварыйных заявак, кантактаваць з прадпрыемствамі – пастаўшчыкамі камунальных паслуг.

Званок на нумар 115 платны. Аплата ажыццяўляецца па ўстаноўленым «Белтэлекамам» сацыяльным тарыфе – 51 рубель за 1 хвіліну. Яна спаганяецца за час знаходжання на лініі, уключаючы перыяд чакання адказу аператара. *«Мы прапанавалі «Белтэлекаму» ўвесці плату толькі за час размовы. Спадзяёмся, гэтае пытанне ўдасца ўрэгуляваць»,* – растлумачыў Ігар Кірыленка.

Пакуль званкі на нумар 115 прымаюць толькі са стацыянарных апаратаў, але ў хуткім часе можна будзе тэлефанаваць і з мабільнага тэлефона.

ТОЛЬКІ ЛІЧБЫ

## Пазычаць было лёгка. А аддаваць?

У 2016 годзе памер выплат па знешніх абавязацельствах Беларусі і выдаткі на абслугоўванне доўгу складуць агулам 3 мільярды 300 мільёнаў долараў. Пра гэта заявіў міністр фінансаў **Уладзімір Амарын.**

Паводле яго ных слоў, за 9 месяцаў 2015 года на аналагічныя мэты было выдаткавана каля 3 мільярдаў долараў, за тры астатнія месяцы застанецца выплаціць яшчэ каля 600 мільёнаў.

Тым часам стала вядома, што Беларусь просіць у Міжнароднага валютнага фонду чарговы крэдыт так званага «пашыранага фармату» памерам 3 мільярды долараў. Так што мы спрабуем атрымаць новыя крэдыты для выплаты старых даўгоў.

БОЛЬ

# «В Беларуси Миша для многих не герой»

*«После смерти сына я научилась быть жестокой. Я за мертвого Мишку глотку перегрызу», – говорит мама погибшего на Майдане белоруса Михаила Жизневского.*

Я познакомилась с родителями Михаила Жизневского во время вечера памяти Алеся Черкашина, еще одного белоруса, погибшего на украинской войне. Нина Васильевна и Михаил Петрович специально приехали из Гомеля в Минск, чтобы почтить память Алеся.



svaboda.org (RFE/RL)

В отличие от многих родителей, которые потеряли своих детей, Жизневские уже научились говорить о Мише в прошедшем времени: любил картошку с молоком, занимался карате, ходил в церковь… Говорят они о погибшем сыне постоянно. Слушая их, невозможно сдержать слезы. А мне хотелось услышать от них ответы на вопросы: как переживают они постоянные акты вандализма на могиле сына? Не хотят ли, например, уехать из Беларуси в Украину?

### «Вся палата объявила мне бойкот…»

Нина Васильевна горько улыбается: «*Привыкла, что в Беларуси Миша для многих не герой. Наоборот*». Рассказывает, как на 39-й день после смерти Миши у нее случился обширный инфаркт. Состояние было критическое, пять дней лежала в реанимации. Когда перевели в отделение, одна из соседок по палате спросила: «Там, на Майдане, Жизневский был. Ты тоже Жизневская?» – «Да, это мой сын».

– *Та как плюнет мне в лицо: «Ах ты, сука, выплодила ублюдка, предателя белорусского народа!»,* – смахивает слезы Нина Васильевна. – *«Если ты сейчас не замолчишь, – говорю, – ударю». Замолчала. После этого вся палата объявила мне бойкот, пошли к заведующему просить, чтобы меня из палаты в коридор вывезли. Он, правда, меня защитил, сказал им: «Если вы так хорошо себя чувствуете, выписывайтесь!»*

*Сколько я всего выслушала за это время! И «бандеровской сукой» меня обзывали, и говорили, что меня надо убить. Даже учительница Миши вместо сочувствия кричала мне: «А чего он туда поперся? За хохлов жизнь отдал, за этих дураков».*

7 июля этого года на могиле Михаила Жизневского в родной деревне был установлен памятник. Деньги на него собирали неравнодушные граждане Украины, Беларуси, Польши, других стран. У родителей не получается часто бывать на могиле сына – Нина Васильевна из-за сахарного диабета почти не ходит. Но ездят на кладбище регулярно. Несколько недель назад приехали…

– *На памятнике прямо под барельефом выцарапано через всю плиту «Предатель»,* – говорит Нина Васильевна. – *Раньше, когда на могилу приносили сине-желтые флажки или ленточки, их просто срывали. Наверное, им этого мало. Надо большую подлость сделать…*

*Я после смерти сына научилась быть очень жестокой. Я научилась драться. Я за мертвого сына глотку перегрызу. Пока буду жива, его в обиду не дам.*

### «Чтобы восстановить доброе имя сына…»

Больно родителям и от того, как чтят память о сыне в Украине:

– *Мы вот были в Киеве, так там тоже… Его мемориал такой заляпанный, грязный, из-за неубранной листвы невозможно надписи прочитать. Ни одного цветочка нет.*

Власти Украины по возможности поддерживают семью Жизневских. Помогли купить новую квартиру в Гомеле, организовали лечение Нины Васильевны в Киеве. В декабре прошлого года Жизневских принимал президент Украины Петр Порошенко – вручил родителям орден Героев Небесной сотни, присвоенный посмертно Михаилу Жизневскому. Однако Нина Васильевна не скрывает обиды на президента Украины.

– *Он обещал перед всем миром присвоить Мише звание Героя Украины. И что?..* – вздыхает женщина. И продолжает: – *Для чего мы этого добиваемся? Да для того, чтобы восстановить доброе имя нашего сына в Беларуси, потому что здесь Мишу называют бандитом и нацистом. Для нас это была бы защита. Могилу бы не трогали, местные власти обязаны были бы за ней присматривать, защищать от хулиганов…*

Родителям ничего не говорят и о результатах расследования убийства сына. Даже не отдают все вещи.

– *Мы до сих пор не можем забрать Мишины вещи: ни телефон, ни крестик,* – говорит Михаил Петрович. – *Когда мы пришли к следователю, нам отдали пустой кошелек, пачку сигарет и утеплители на руки. Дают крестик. Я смотрю: он деформирован. Пуля, видно, попала в него, а уже потом в Мишу. Говорю: «А что это? Как вы смотрели?» Следователь сразу: «Давайте сюда. Вещественное доказательство». И все. Дело с концами. Но ведь отцу убитого на Майдане армянина Нигояна все отдали, даже одежду, пропитанную кровью.*

Есть у Жизневских и вопросы к Дмитрию Ярошу, ведь во время Майдана их сын перешел из УНСО в «Правый сектор».

– *У меня к Ярошу очень много вопросов накопилось,* – говорит Нина Васильевна. – *Он подлый трус. Я ему звонила, он не отвечал. Потом Зоя Нечай помогла нам устроить встречу с Ярошем. Он нехотя согласился. Мы поехали к нему в Украину, а он не пришел. Прислал вместо себя Берёзу. Зачем мне Берёза, если Ярош был главнокомандующим? Главный вопрос мой вот в чем. Шишулина Саша и Забохин Владимир – это друзья Миши. Они в Белой Церкви работали вместе в газете «Соборна Київщина». После смерти сына многие люди, узнав о том, что у нас нет собственного жилья, захотели помочь и собрать деньги на квартиру. И встал вопрос, куда слать деньги. Я сказала: «Саша, открывай счет на мое имя». Ведь Миша очень хотел, чтобы мы жили отдельно, и мы с мужем хотели исполнить его желание. А эти «друзья» открыли счета на себя. Деньги, которые были перечислены, – а это большая сумма, только поляки собрали на новую двухкомнатную квартиру – исчезли. Передали нам только 2000 долларов. Где эти деньги? Нам они уже не нужны. Правительство Украины, благотворительные украинские фонды нам купили квартиру в Гомеле. Но пусть бы эти деньги пошли на помощь украинской армии, солдатикам в АТО. Это была бы им помощь от Миши…*

**Ирина АНДРЕЙЦИВ.**

ПО ВАШЕЙ ПРОСЬБЕ

***Мы сегодня сконцентрированы на решении сиюминутных проблем: выдали на том или ином заводе зарплату или не выдали, пять дней в неделю работают предприятия или три-четыре дня, выполнены планы или не выполнены... Оно и понятно, каждый человек хочет жить хорошо сегодня, а не когда-нибудь в счастливом завтра. Однако, на мой взгляд, очевидно, что стратегически многие предприятия Беларуси вовсе придется закрыть, что будущее белорусской экономики не за технологически отсталыми промышленными гигантами, а за сферой высоких технологий, сферой услуг, транзитом. В этой связи мне кажется очень интересным проект, ради которого в Беларусь с визитом приезжал китайский лидер Си Цзиньпин (а он просто так с визитами не ездит). Очень прошу «Народную Волю» подробнее рассказать об этом проекте.***

**Виктор ГАВРОШ, Минск.**

# Беларусь–Литва: логистическая сцепка для «Нового Шелкового пути»

Хотя маршрут «Нового Шелкового пути» пока не определен, Беларусь совместно с Литвой прилагает максимум усилий, чтобы он проходил по территории двух стран.

*«Мы – в одной транспортной связке и должны быть привлекательны для международных компаний. Это особенно актуально в рамках проекта «Новый Шелковый путь»,* – подчеркнул посол по особым поручениям, ответственный за развитие транспорта, МИД Литвы **Кестутис Кудзманас** в Минске на Белорусско-литовском форуме, который прошел в рамках Белорусской транспортной недели.

## Литва сыграла на опережение

*«Литва, развивая свою транспортную и портовую инфраструктуру, давно готовилась к новым вызовам»,* – подчеркнул посол.

В октябре 2009 года в ходе первого Евроазиатского транспортного форума ASEM министры транспорта Беларуси, Литвы и Китая подписали в Вильнюсе декларацию о создании сухопутного транзитного коридора Восток–Запад, который, как предполагалось еще тогда, должен стать альтернативой морскому Азия–Европа. В то время стороны предпринимали активные попытки, чтобы к этому проекту подключить Россию и Казахстан, по территории которых пройдет новый транспортный маршрут.

За последние годы Литовские железные дороги (ЛЖД) приобрели богатый опыт работы по организации контейнерных линий, а также в развитии мультимодальных перевозок и экспедировании грузов в направлениях Восток – Центральная Европа, Восток–Запад, а также в страны СНГ.

*«Литовские железные дороги очень заинтересованы в развитии транспортного моста между Азией и ЕС, особенно в организации железнодорожного сообщения между Китаем и ЕС»,* – подчеркнул заместитель генерального директора – директор дирекции по грузовым перевозкам ЛЖД **Стасис Гудвалис** на Белорусско-литовском форуме.

С этой целью ЛЖД подписали соглашение о сотрудничестве с China Railway International Co (CRIMT), которая занимается международными перевозками грузов морским и железнодорожным транспортом. Также подписаны договоры по экспедированию грузов с компаниями China CAMC Engineering, Sinotrans Limited, Kerry Logistics, Genertec International Logistics, Bondex Logistics.

Литовские профильные эксперты просчитали логистику и предлагают два возможных маршрута для перевозок контейнеров из Китая в Европу. Это маршрут Алашанькоу/Достык – Ильецк (KZ) / Кунисай – Красное Exp (RU) / Осиновка Опыт – Гудогай Exp (BY) / Кена – Моцкава Exp (LG) и Алашанькоу/Достык – Семиглавый мар Exp (KZ) / Озинки – Злинка Exp (RU) / Закопытье – Гудогай Exp (BY) / Кена – Моцкава Exp (LG). Время в пути контейнерных поездов – 8–9 суток.

Чтобы быть надежным логистическим коридором для «Нового Шелкового пути», Литва уделяет большое внимание расширению географии контейнерного поезда «Викинг» в регионе Балтийского моря, который может стать успешным инструментом для перевозки грузов между Скандинавией и странами Черноморского региона.

В рамках амбициозного транспортного проекта «Новый Шелковый путь» на первый план выходят рынки Скандинавских стран: Швеции, Финляндии и Норвегии. В ходе недавнего визита делегации представителей Литовских железных дорог в Швецию компания Green Cargo заявила о согласии присоединиться к проекту «Викинг». Финская компания Steveco также уже согласует детали пробных перевозок в Турцию.

Напомним, совместный проект Литвы, Беларуси и Украины по созданию контейнерного поезда «Викинг», стартовавший в 2003 году и соединивший Клайпедский и Одесский (Ильичевский) порты, с каждым годом соединяет все больше государств и расширяет географию присутствия.

Кроме «Викинга» через Беларусь проходят регулярные контейнерные поезда «Сауле», «Меркурий», «Шяштокай экспресс», «Балтийский ветер».

## Rail Baltica объединит европейскую и российскую железнодорожные колеи

Повысить транзитную привлекательность Беларуси и Литвы позволит реализация международного транспортного проекта Rail Baltica, который интегрирует Литву и другие страны Балтии в железнодорожную сеть Европы. Его цель – развитие высококачественного грузового и пассажирского сообщения между странами Балтии и Евросоюза.

Железная дорога европейской колеи соединит Таллинн, Ригу, Хельсинки (посредством железнодорожного парома), Каунас, Вильнюс и Варшаву с последующим ее продлением до Берлина.

После прокладки Rail Baltica Литва сможет не только полнее использовать свои географические преимущества, но и стать страной железнодорожного транзита в ЕС: колеи европейского стандарта – в западном направлении и широкой колеи российского стандарта – в направлении стран Балтии.

Пока до Каунасского терминала простирается лишь российская колея. Но уже сейчас в Каунасе в целях использования европейской колеи строится новая точка логистики Rail Baltica – Палемонский интермодальный терминал, до которого будет проложена колея европейского стандарта.

Таким образом, после завершения работ Каунас станет единственным местом в Балтийском регионе, где будут соединены железнодорожные колеи российского и европейского стандартов. Это даст положительный эффект для экономики не только Литвы, но и Беларуси, поскольку позволит привлечь новые грузы транзитом через ее территорию.

Вся длина планируемой трассы Rail Baltica от государственной границы Польши/Литвы через Латвию и Эстонию до Таллинна превысит 1200 километров. Самый длинный участок трассы – около 330 км – намечено проложить в Литве, участки трассы длиной примерно по 300 км пройдут через Латвию и Эстонию.

Как сообщил в ходе Белорусско-литовского форума Кестутис Кудзманас, участок трассы Rail Baltica от госграницы Польши/Литвы до Каунаса длиной 123 км *«будет открыт через неделю».* А строительство участка от Каунаса до госграницы Литвы/Латвии намечено завершить до 2025 года.

## Казахстанский вектор

Беларусь также прилагает максимум усилий, чтобы «Новый Шелковый путь» прошел по ее территории. Ведь если Беларусь подключится к сухопутному транспортному коридору между Азией и Европой, у нее появится шанс примерно в два раза увеличить транзитный грузопоток.

Тем более что в этом случае для доставки грузов в направлении Азия–Европа могут быть востребованы пересекающие страну трансъевропейские транспортные коридоры Запад–Восток и Север–Юг. А по автомобильным дорогам, входящим в эти транспортные коридоры, проходит северный маршрут NELTI, разработанный как альтернатива морским маршрутам в этом направлении.

Отметим, что делегация Минтранса Беларуси еще в августе 2012 года в ходе визита в Казахстан обсуждала проект по развитию транспортного коридора Западный Китай – Западная Европа с казахстанскими специалистами. Она также посетила казахстанско-китайскую приграничную зону, где идет строительство международного центра «Хоргос» и СЭЗ «Хоргос – Восточные ворота». «Хоргос» – один из крупнейших проектов, который как раз и направлен на развитие транзитного трансконтинентального коридора Западный Китай – Западная Европа.

Предполагается, что «Хоргос» станет главным опорным пунктом нового евроазиатского моста. Белорусская сторона заявила, что хотела бы использовать его возможности совместно с Казахстаном. В ходе визита делегации Минтранса в Казахстан речь шла о том, что этот проект призван стать транзитным мостом между Азией и Европой, соединяющим транспортно-логистический хаб «Хоргос» с терминалами Бреста.

Также неслучайно железнодорожники РФ, Казахстана и Беларуси пролоббировали создание единого логистического оператора (Объединенная транспортно-логистическая компания – ОТЛК). Особый интерес к нему проявляют белорусские транспортники. И не скрывают почему: они не хотят потерять грузы, идущие из Казахстана в Европу.

Пока окончательный маршрут «Экономического пояса Шелкового пути» не определен, но белорусские транспортники, цитируя высказывания высокопоставленных лиц Китая, говорят о том, что Китайско-Белорусский индустриальный парк должен стать одним из узловых пунктов «Экономического пояса Шелкового пути».

Подтверждением тому служит намерение корпорации China Merchants Group (специализируется на оказании транспортных, логистических, финансовых услуг) построить торгово-логистический субпарк Китайско-Белорусского индустриального парка «Великий камень». В 2016 году сумма инвестиций в субпарк составит около 150 млн долларов. При этом к ноябрю 2016 года корпорация готова ввести объекты общей площадью 100 тыс. кв. метров, в том числе 51 тыс. кв. метров – крытые склады, 20 тыс. кв. метров – открытые склады, 21 тыс. кв. метров – выставочные площади, 6,2 тыс. кв. метров – торговые площади, 1,6 тыс. кв. метров – офисные площади, 1,34 тыс. кв. метров – сопутствующие сооружения.

Эта корпорация готова участвовать в разработке Концепции транспорта и логистики Беларуси, а также в совместных проектах по распространению грузовых авиаперевозок, которые могут придать импульс развитию инфраструктуры Национального аэропорта Минск.

Повышению транзитной привлекательности Беларуси поспособствует и электрификация транспортного коридора в сторону Литвы.

Белорусская железная дорога (БЖД) 24 сентября 2015 года приступила к электрификации участка Молодечно–Гудогай–госграница протяженностью 84 км (объем инвестиций – 89,9 млн долларов от Экспортно-импортного банка Китая). Проект планируется завершить в 2016 году. Сейчас в Литве ведется электрификация участка протяженностью около 30 км от станции Новая Вильня до госграницы с Беларусью. Этот проект станет завершающим этапом электрификации белорусского участка ответвления Общеевропейского транспортного коридора № IXB, который связывает страны Балтии с Восточной Европой.

**Татьяна МАНЕНОК,**
belrynok.by.

### Для справки

Общий объем железнодорожного грузопотока между Литвой и Беларусью за 8 месяцев увеличился в сравнении с аналогичным периодом 2014 года на 9,44% – до 11,3 млн тонн. При этом в направлении Клайпеды за январь–август 2015 года было перевезено 9,197 млн тонн грузов, в то время как за аналогичный период 2014 года – 8,409 млн тонн (удобрений в сообщении Беларусь–Литва за 8 месяцев текущего года было перевезено на 8,9% больше, чем за аналогичный период 2014 года, нефти и нефтепродуктов – на 18,6% больше).

В то же время транзит грузов за 8 месяцев 2015 года в сравнении с аналогичным периодом прошлого года снизился с 484 тыс. до 406,3 тыс. тонн.

ФАКТ І КАМЕНТАРЫЙ

# Ці стрымае міністр слова?

*Разбежка паміж даходамі і расходамі ў некалькі тысяч долараў падаткавікоў не зацікавіць*

Навіна пра тое, што падаткавікі цяпер будуць кантраляваць даходы і расходы абсалютна ўсіх беларусаў, узбударажыла грамадскасць. Міністр паспрабаваў усіх супакоіць…

Добрасумленным грамадзянам не варта турбавацца з нагоды параўнання іх выдаткаў і прыбыткаў падатковай інспекцыяй, заявіў журналістам міністр па падатках і зборах Беларусі **Сяргей Налівайка**.

«*Турбавацца і перажываць грамадзянам, якія маюць афіцыйныя даходы і супастаўныя траты, у прынцыпе, не варта»,* – сказаў Налівайка. Ён дадаў, што нават калі ёсць разбежка паміж даходамі і расходамі ў 200–300 і нават у некалькі тысяч долараў, то гэта не тыя выпадкі, якія цікавяць падаткавікоў.

Міністр таксама падкрэсліў, што ў Беларусі параўноўваюць прыбыткі і выдаткі ўсіх грамадзян. «*Іншая справа, што ёсць пэўныя катэгорыі павышанай рызыкі, як мы іх называем»,* – дадаў кіраўнік падатковага ведамства. Ён адзначыў, што гаворка, у прыватнасці, ідзе пра тых, хто мае мізэрны прыбытак, але выдаткоўвае значныя сумы, рэгіструе на сваё імя аб’ект нерухомасці або аўтамабіль.

*«Ёсць шэраг прыкладаў, вельмі яркіх, калі студэнты, не маючы крыніц даходаў, купляюць сотні тысяч, а то і мільёны долараў. Вось гэта катэгорыя і складае зону рызыкі. Усе астатнія грамадзяне могуць проста не турбавацца»,* – растлумачыў Сяргей Налівайка.

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

# Калі немалады, дык думай пра клады…

У пасёлку Мільча пад Гомелем 79-гадовы дзед закахаўся ў 32-гадовую ўдаву і, калі да яе ў госці прыйшла хеўра маладзёнаў, ад рэўнасці падпаліў хату "блудніцы".

Пражыў на свеце дзед ужо
Гадоў дзясяткаў восем.
Нібы прырода, ён пажоўк,
Бо наступіла восень.
Падумваюць усе дзяды
Свайго жыцця на схіле,
Як перабрацца на клады,
Улегчыся ў магіле.
А гэты дзед – ён не такі,
Не вабіла магіла,
Як быццам думаў жыць вякі,
У жылах кроў бурліла.
І як зрабілася ўдавой
Суседка-маладзіца,
Дзед развязаў "вузельчык" свой,
Каб жарсцю наталіцца.
Агеньчыкі ў яго вачах,
Усмешка-блуд на твары,
А пра суседку па начах
Ён песціў мроі-мары.
Вось ён раздзеўся… А яна
Ужо гарыць ад страсці…
Рука кранаецца сцягна…
Вышэй… Якое шчасце!
Так Камасутру ўсю, лічы,
Дзед пракруціў у мроях,
Таму заўжды была ўначы
Напагатове "зброя".
Затым "паехалі глузды":
Лічыў ён кожным ранкам,
Што маладзіца сапраўды
Ягоная каханка.
Хоць ён нямоглы, ледзь жывы,
Даводзіў клёк старэчы:
"Ёсць на яе ў мяне правы…"
З суседкай пры сустрэчы
Дзед кожны раз рабіў намёк:
Маўляў, да цела цела…
А маладзіца ў дзедаў бок
Чамусь і не глядзела.
Зусім інакшы інтарэс
У маладой суседкі.
А потым здарыўся эксцэс –
І ён жахлівы гэткі!
Душа ў старога – на шматкі,
Дзед закіпеў ад злосці:
Прыйшлі якіясь дзецюкі
Да маладзіцы ў госці.
І дзед убачыў праз акно
(Хадзіў, як здань, ля хаты),
Што маладзёны п'юць віно,
Суседкі мацае сцягно
Дзяцюк найбольш паддаты.
Не дзіўна, што ўнутры дзядка
Прачнуўся дух Атэла:
"Чаму яна гвалтаўніка
Па карку не агрэла?
Яна наадварот хутчэй –
Забаве толькі рада:
Вунь шчасце пырскае з вачэй.
Ды гэта ж проста здрада!"
Быў задушыць гатовы дзед
Уяўную каханку.
Памкнуўся і пакінуў след
Ужо на ейным ганку,
Але адумаўся стары,
Не адбылася кара:
Яму суседчыны сябры
Дадуць самому ў карак.
Для "здрадніцы" прыдумаў ён
Інакшую адплату:
Дзед падпаліў падсохлы лён,
Паклаў яго пад хату…
Які ж для дзеда рэзультат?
Цяпер, бадай, да скону
Другі жыццёвы мецьме лад,
Таптацьме, дурань, зону.
Хлябтацьме, пэўна, баланду,
Што ў нехлямяжай місцы.
І будзе разганяць нуду
"Любоў па перапісцы".

* * *

Каб не было затым бяды,
Каля пахілых весніц
Пільнуйце ўвечары, дзяды,
Сваіх бабуль-равесніц!

SOS!

# А он плевал на предписание…

Мы, жильцы дома №7 по ул.Лынькова г.Минска, попали в беду. У нас на придворовой территории в 10 метрах от подъезда застройщик ООО «Парфюм-Трейд» 1 октября 2015 года начал строительство магазина «Мила», не соблюдая санитарные нормы и СНИПы. Обсуждения проекта с общественностью не было. Приехал, огородил и начал строить. Только после этого мы узнали, что землю он купил еще в 2013 году.

По «горячей линии» обратились к главе администрации Фрунзенского района. Получили ответ, что ему выдано предписание – пока о приостановке строительства. Но застройщик плевал на это предписание, он завозит материалы и ведет строительство. 14 октября узнаем, что он огородил еще не все, оказывается, нам, жителям дома, остается только выход из подъезда.

Кто, когда и на каком основании забрал у нас и наших детей этот кусочек придворовой территории? Через газету обращаюсь к властям: остановите беспредел!

**Ольга Анатольевна ДОЛГАЧЕВА, проживающая в Минске по адресу: ул.Лынькова, 7-18.**

ФОТАФАКТ



# Курс на…

У сярэдняй школе №61 г.Мінска ёсць цікавы "куток славы". На што намякаюць? Фота прыкладаю.

**Андрэй ГАСЮК.**

АД РЭДАКЦЫІ

І сапраўды, дзіўным курсам пайшла экспазіцыя – на рэпрэсіі і галоту.



ВОЗВРАЩАЯСЬ К НАПЕЧАТАННОМУ

# Не подходит по статусу? Вполне подходит!

***Чиновники уперто не хотят признать выдающегося разведчика Великой Отечественной войны национальным героем Беларуси.***

О незаурядных фронтовых заслугах гражданина Беларуси **Михаила Степановича Гриневича** и равнодушии власти к тому, что он совершил, достаточно подробно и, полагаю, доказательно говорилось в моей статье «Отмахиваясь от подвига» («Народная Воля», 31 марта 2015 г.). Командуя разведротой и лично участвуя почти в каждом поиске, Гриневич захватил со своими разведчиками свыше 150 «языков», форсировал под огнем три реки – Десну (1943), Одер, Нейсе (1945) и удерживал захваченные плацдармы до подхода главных сил. И плюс к этому – спасение гвардейского Знамени, атака на гарнизон города Рава Русская (1944), превосходящий группу советских разведчиков по численности живой силы почти вдесятеро (расчет на внезапность). Оборона города противником была сорвана, захвачен и до подхода батальонов дивизии удержан железнодорожный вокзал со стоявшими там эшелонами...

Сколько жизней советских солдат было спасено столь отчаянной самоотверженностью разведчиков!

Снова возвращаюсь к боевым делам Гриневича, чтобы подчеркнуть: **аналогов такого суммарного подвига во время Великой Отечественной нет**.

Пять раз отважный разведчик был ранен, из них дважды тяжело, но, сбежав из госпиталя к своим бойцам, довоевал до последнего дня войны.

Что тут комментировать! Неспроста же генерал Г.В.Иванов, фронтовой командир 6-й гвардейской стрелковой дивизии, 69 солдат и офицеров которой стали Героями Советского Союза (!), назвал Михаила Гриневича «героем из героев».

И такой человек в годы войны из-за «бдительности» особистов (сын «кулака») так и не получил высшую награду страны! А после войны три последующих представления к званию Героя неизменно вязли в циничном безразличии чиновников, причастных к принятию решений о присвоении государственных наград. А сколько писем было написано в разные инстанции, вплоть до А.Г.Лукашенко! Дважды я побывал в приемной его Администрации, дважды – в Полоцком горисполкоме (М.С.Гриневич десятки лет прожил в Полоцке) и каждый раз натыкался на бюрократические закорючки. И главная из них – «не подходит по статусу «Герой Беларуси». (Об этом статусе ниже.)

К 70-летию Победы предпринял еще одну попытку добиться справедливости. Подумалось: а вдруг в связи с этой славной датой совесть чиновников проснется? Ведь такие подвиги совершил фронтовой разведчик!

Снова двинул в приемную упомянутой Администрации. Надеялся: там выслушают и доложат Александру Григорьевичу. А уж он решить этот вопрос может одним телефонным звонком.

Хотя особо и не рассчитывал на чуткость белорусской власти, но все-таки надежда была. Должна же эта власть сознавать, как нужны нашей стране герои! Не назначенные, а настоящие, на подвигах которых и надо воспитывать молодежь.

Однако способность нынешней власти позитивно откликаться на усилия «рядового гражданина», даже самые обоснованные, явно переоценил.

В приемную Администрации меня на этот раз не пустили. Услышал:

– По данному вопросу вам надо обращаться в Министерство обороны...

Вот так. Выходит, Администрация, напрямую подчиненная главе государства, отмахивается от вопросов, рожденных «снизу», в решении которых решающее слово именно за ним. Куда проще переложить их на то или иное ведомство. Там вопрос, скорее всего, не решат, но оградят правителя от лишнего для него беспокойства.

Тогда зачем нам **такая** Администрация, на содержание которой уходят немалые деньги налогоплательщиков? Какой в ней прок?

С такими невеселыми мыслями направился в бюро пропусков Министерства обороны. Вышел на отдел кадров. Его начальник посоветовал обратиться к начальнику наградного отдела Ольге Алексеевне



Куркович. После многократных попыток все-таки дозвонился. Ольга Алексеевна желания принять меня не выказала. Пришлось ограничиться телефонным разговором, а значит, излагать суть вопроса предельно кратко. Но моя собеседница сразу же дала понять: никакого конструктивного результата наш разговор не даст.

– Да вы поймите... У нас уже около полусотни писем по поводу присвоения звания Героя, когда наградные листы в военные годы не были реализованы. Так что ваша просьба далеко не единственная. Но что мы можем теперь сделать? У нас уже другое государство, другой статус этой высшей награды...

– Ольга Алексеевна, выходит, что какие бы выдающиеся подвиги во время Великой Отечественной ни совершил наш земляк, не получивший звания Героя Советского Союза из-за подлости особистов, а в послевоенные годы из-за равнодушия наградных чиновников, героем Беларуси он быть уже не может? Я вас правильно понял?

– Поняли правильно.

Заодно я понял и другое: это не злая воля конкретной начальницы. Это **установка «сверху»**: подобные дела не рассматривать! Зачем власти все эти разбирательства: достоин звания Героя или не достоин? Куда проще под фронтовыми подвигами подвести черту, а говоря попросту, отмахнуться от них, ссылаясь на статус звания Героя Беларуси. Дескать, под него не подходит.

Приведу цитату из Закона Республики Беларусь «О государственных наградах»:

*«Звание «Герой Беларуси» является высшей степенью отличия Республики Беларусь и присваивается за исключительные заслуги перед государством и обществом, связанные с подвигом, совершенным во имя свободы, независимости и процветания Республики Беларусь».*

Что тут «не подходит» применительно к фронтовому разведчику-асу гвардии капитану Михаилу Гриневичу? Доказывать, что его заслуги на войне исключительные, полагаю, уже нет необходимости. Во имя чего совершал он свои подвиги? Правильно, во имя свободы, независимости и будущего процветания Отечества. Да, тогда оно называлось Советским Союзом. Но ведь наша республика была неотъемлемой его частью. Теперь она – независимое государство, но Беларусь как была, так и осталась Беларусью. И если **во имя ее будущего** наш земляк героически сражался на фронтах Великой Отечественной, то почему он посмертно не может стать Героем Беларуси?

Зато стали с оглушительным пафосом присваивать это звание олимпийским чемпионам. Спору нет: их достижения вызывают восторг у спортивных болельщиков. Но спорт – это спорт. Кто-то пробежит на лыжах дистанцию быстрее других, кто-то на ринге искуснее набьет физиономию сопернику, кто-то отличится на спортивных снарядах... Но при чем тут подвиг «во имя свободы, независимости и процветания Республики Беларусь»? Какое бы место ни занял спортсмен на состязаниях – первое или последнее, никакого влияния на свободу и независимость страны это не окажет. А ее процветание – вовсе не в олимпийском пафосе. Тут составляющие куда более весомые.

Так что же получается? Спортивные достижения подогнать под упомянутый статус можно, а подвиг истинного героя, исключительные заслуги которого перед Отечеством неопровержимо доказаны, который ради него многократно рисковал жизнью, пролил столько крови, под этот статус не подходит? Не кажется ли вам, господа наградные чиновники и государственные идеологи, что вы смещаете нравственные ориентиры?

**Михаил НОРДШТЕЙН.**

АФІЦЫЙНА

*Чытачы часта пытаюцца: як рэагаваць, калі на мабільны тэлефон прыходзіць SMS-паведамленне, што ў такі дзень і такі час неабходна з'явіцца ў суд на разгляд адпаведнай справы? Адказ на гэтае пытанне даў Вярхоўны суд Беларусі.*

# Усё законна!

Інфармаванне ўдзельнікаў судовага працэсу аб часе і месцы судовага разбору праз СМС-паведамленні на мабільны тэлефон адпавядае закону. Пра гэта на сваім афіцыйным сайце паведаміў Вярхоўны суд Беларусі.

Нагадаем, гэтая тэма ўзнікла пасля атрымання такога роду паведамленняў арганізатарамі і ўдзельнікамі несанкцыянаваных акцый у верасні гэтага года ў Мінску. І Мікола Статкевіч, і Анатоль Лябедзька не атрымлівалі ніякіх позваў у суд. Затое атрымалі на мабільныя тэлефоны дзіўныя паведамленні, з якіх немагчыма было зразумець, ці то сур'ёзны выклік у суд, ці то чыйсьці розыгрыш.

«*Пры сучасным развіцці інавацыйных тэхналогій выкарыстанне пераваг мабільнай сувязі відавочнае. СМС-паведамленне – па сутнасці судовая позва, якая высылаецца праз СМС, – шырока выкарыстоўваецца ў краінах з дастаткова высокім узроўнем развіцця электроннага судаводства. Напрыклад у Казахстане, Расіі, ва Украіне, у Літве,* – адзначаюць у Вярхоўным судзе. – *У Беларусі выкарыстанне іншых сродкаў сувязі для накіравання судовых позваў, у прыватнасці такога віду сучаснай камунікацыі, як СМС-паведамленне, пра час і месца судовага пасяджэння юрыдычна зацікаўленых у зыходзе справы асоб рэгламентавана працэсуальнымі нормамі і дзейнымі ў судах агульнай юрысдыкцыі інструкцыямі па справаводстве*».

Напрыклад, пленум Вярхоўнага суда ў пастанове ад 21 снежня 2012 года «Аб практыцы разгляду спраў у парадку завочнай вытворчасці» арыентаваў суды на тое, што адказчык прызнаецца належна паведамленым аб часе і месцы судовага пасяджэння пры выкананні патрабаванняў аб змесце судовага паведамлення, спосабе і тэрміне яго ўручэння (артыкулы 143–145), а ў выпадках пражывання адказчыка за межамі Беларусі – пры выкананні палажэнняў міжнародных дагавораў, у прыватнасці Канвенцыі аб прававой дапамозе і прававых адносінах па грамадзянскіх, сямейных і крымінальных справах, ажыццёўленай у Мінску 22 студзеня 1993 года, і пратакола да яе, падпісанага ў Маскве 28 сакавіка 1997 года, Канвенцыі аб прававой дапамозе і прававых адносінах па грамадзянскіх, сямейных і крымінальных справах, ажыццёўленай у Кішынёве 7 кастрычніка 2002 года.

Пры гэтым спосаб судовага паведамлення павінен забяспечваць яго фіксаванне (частка 2 артыкула 143 ГПК). У неабходных выпадках інфармаванне дапускаецца з выкарыстаннем электрасувязі (тэлефанаграмы, СМС-паведамленні) пры фіксацыі факта адпраўлення і дастаўкі такога паведамлення адрасату.

Пры разглядзе эканамічных спраў суд таксама мае права праінфармаваць удзельнікаў працэсу праз тэлефанаграму, тэлеграму, факсімільную сувязь, інтэрнэт, у тым ліку электронную пошту, а таксама з выкарыстаннем іншых сродкаў сувязі, якія забяспечваюць фіксаванне факта паведамлення або выкліку ў парадку, устаноўленым заканадаўствам (артыкул 140 ГПК).

Дапушчальнасць інфармавання праз СМС прадугледжана і ПВКоАП, адзначаецца ў паведамленні Вярхоўнага суда.

ГЛАС НАРОДА

# Свет и тени

В «Народной Воле» в одном из материалов **Марины Коктыш** про энергоэффективность специалисты ОАО «Испытания и сертификация бытовой и промышленной техники **«Беллис»** рассказали о том, что в ближайшее время будут полностью сняты с производства люминесцентные лампочки. На смену им придет более совершенная и экономичная светодиодная лампочка. Собственно, население еще не успело как следует познакомиться с люминесцентным освещением, как ему приходит конец. А знакомство это не состоялось по очень простой причине – цена этой лампочки оказалась в десять (!) раз больше цены обычной лампочки накаливания, и народ, как говорится, перед выбором не стоял. Поэтому люминесцентный век оказался коротким и незаметным.



Специалисты «Беллис» говорят, что светодиод будет не только экономичным, но и дешевым. Да, он уже есть в магазинах. Если обычная лампочка стоит 5000 рублей, то светодиодная – 100.000 рублей.

Спрашивается: а куда девать люминесцентную продукцию из Китая, России, Германии, Голландии, которой завалены склады и полки магазинов? Кстати, и Беларусь тоже выпускает такие лампочки. С ними что делать? Видимо, эту продукцию необходимо реализовать до полного запрета на ее производство и продажу.

Государство должно быть заинтересовано в реализации экономной продукции. Возможно, нужно устроить месячник, а не один скидочный день, как это принято в наших универмагах, со снижением цен на люминесцентные лампочки на 30–50 процентов и другие подобные мероприятия. Вопрос экономии энергоресурсов для Беларуси исключительно важен. Об этом должен думать каждый.

**Виктор ЛАТУШКО.**

*Минск.*

ЛЁСЫ ЛЮДСКІЯ



Дачка Людмілы Мікалаеўны Ева і ўнучка Жэня.

# Талент быць шчаслівай

Маладая жанчына памірала. Ужо і дактары сказалі ёй, што засталося зусім нядоўга. Яна, лічы, дзень і ноч ляжла з расплюшчанымі вачыма. Спачатку горка плакала, а потым, калі слёз не стала, пачала маліць Бога аб збавенні. Простымі шчырымі словамі.

– Божа, – шаптала амаль нячутна, – дапамажы мне паправіцца. Ты ведаеш, у мяне двое маленькіх дзетак. А мама – як яна перажыве маю смерць? А муж? У яго ж хворае сэрца.

Днём у палату, прыадчыніўшы дзверы, заглядвалі кабеты, якія таксама лячыліся ў бальніцы. Прыходзілі паглядзець, нібы на музейны экспанат. Ад гэтых цікаўных позіркаў было яшчэ цяжэй, і яна ўсё малілася:

– Божа, я зраблю ўсё дзеля шчырага служэння табе. Дапамажы…

І здарыўся цуд! Людміла Асіпук стала папраўляцца. Дзівіліся дактары, дзівіліся ўсе наўкола.

– Я праз нейкі час выпісалася з бальніцы зусім здаровая, але пра абяцанне, дадзенае Усявышняму ў цяжкія гадзіны, не забылася, – успамінае Людміла Мікалаеўна. – Толькі не ведала, што я павінна зрабіць. Аднойчы глядзела па тэлевізары перадачу аб дзецях-сіротах і падумала: вось чым буду займацца! Замяню маленькім маму.

Яна сказала пра гэта мужу, і Васіль Дзмітрыевіч не быў супраць. Неўзабаве ўзялі трох малышоў. Тады сям'я жала ў пасёлку Казлоўшчына, муж працаваў інжынерам, а яна гадавала дзетак. Вялікага багацця не мелі, але былі шчаслівыя: у сям'і панавалі ўзаемаразуменне і каханне.

На вялікі жаль, шчасце было нядоўгім: раптоўна памёр Васіль Дзмітрыевіч. Спынілася такое добрае, такое спагадлівае сэрца…

Гора яе было бязмежным, але ні на хвіліну не забывалася пра абяцанне, дадзенае Богу: гадаваць сіротак – Дзіму, Пашу, Алёну, Кацю, Майкла, Ваню, Сашу і яшчэ шмат каго, быць ім апорай ва ўсім. Бачачы высакародныя памкненні Людмілы Мікалаеўны, Цэнтр усынаўлення купіў вялікай сям'і дом у Дзятлаве на вуліцы Гагарына – прасторны, двухпавярховы. Якую ўтульнасць стварылі яны з дзеткамі, якую ўзорную чысціню навялі! Ім дапамагала мама Людмілы Мікалаеўны, а для ўсіх маленькіх насельнікаў гэтага цудоўнага дома – клапатлівая бабуля. Яна ўмела ўсё: і зварыць, і спячы, і пашыць. А яшчэ яна ўмела прытуліць да грудзей, пагладзіць па маленькіх галоўках, суцешыць у розных дзіцячых няўдачах, якія ў такім узросце здаюцца вялікай трагедыяй.

Каля дзясятка гадоў таму я пісала пра іх, а цяпер пайшла даведацца, што змянілася, як яны жывуць цяпер. А змянілася вельмі многае, толькі ранейшай застаецца шчырая любоў Людмілы Мікалаеўны да сваіх дзетак. Гэта прыгожая жанчына з ласкавай усмешкай па-ранейшаму ўсё робіць дзеля таго, каб яе хлопчыкі і дзяўчынкі не адчувалі сябе адзінокімі, пакрыўджанымі лёсам. У іх ёсць мама. Яна і параіць, і дапаможа, і падтрымае ў цяжкую хвіліну. Яна – абаронца ад студзёных жыццёвых віхур.

Я кажу: хлопчыкі і дзяўчынкі… Для яе так, яны па-ранейшаму дзеці, але цяпер у многіх ужо ёсць свае сем'і. Напрыклад, Майкл пасля заканчэння Гродзенскага ўніверсітэта імя Янкі Купалы, дзе атрымаў прафесію праграміста, хутка ажаніўся. У іх з жонкай двое дзетак. Спачатку жылі ў Гродне, а цяпер купілі дом у Дзятлаве.

Паша – індывідуальны прадпрымальнік, а яго жонка Крысціна – медсястра. Яны былыя аднакласнікі, каханне іх праверана гадамі. У іх дзве дачушкі.

Дзіма працуе інструктарам па ваджэнні аўтамабіляў. Таксама жанаты. Мае дачушку.

Калі гаварыць карацей, то ў Людмілы Мікалаеўны ўжо трынаццаць унукаў, бо пераважная большасць яе дачок і сыноў – а ўсіх дваццаць тры – даўно дарослыя. Пяцёра яшчэ ходзяць у школу, а самая малодшая – Марынка – у дзіцячы садок.

Гэта мама не толькі заўсёды стараецца даць сваім дзеткам ежу і цяпло, але і імкнецца, каб яны гарманічна развіваліся. Сыны і дочкі Людмілы Асіпук вучыліся і вучацца ў школе мастацтваў, развіваюць творчыя здольнасці ў розных гуртках, наведваюць спартыўныя секцыі. Словам, заняты карыснымі справамі. Таму і людзі з іх вырастаюць годныя.

– Як вы з усім спраўляецеся? – пытаюся. – Гэта ж процьма работы!

– Дык хіба я адна? У нас жа такая вялікая сям'я. Усе дзеці працуюць. Прычым не пад прымусам, а з вялікай ахвотай. Малодшыя вучацца ў старэйшых. Трымаем немалую гаспадарку: цэсаркі, куры, трусы, свінні, два сабакі і два каты.

Шэсць гадоў таму Людміла Мікалаеўна зноў выйшла замуж. Яе муж з Афрыкі, з Беніна. На радзіме ён працаваў у дзіцячым доме псіхолагам.

– А як вы пазнаёміліся, жывучы на такой адлегласці? – здзіўляюся я.

– Сяброўка пазнаёміла. Яна жыве ў Германіі. Спачатку перапісваліся, а потым ён прыехаў і застаўся назаўсёды. Ужо мовай валодае на бытавым узроўні, добра мне ва ўсім дапамагае.

Два гады мінула, як сям'ю напаткала вялікае гора – памерла мама Людмілы Мікалаеўны, клапатлівая бабуля ўсёй вялікай сям'і. Яе дабрыня, спагада на ўсё жыццё застануцца ў памяці вялікіх і маленькіх унукаў, будуць саграваць іх сэрцы.

…Прыйшлі са школы дзеці, прывялі з дзіцячага садка Марынку, і дом напоўніўся вясёлымі галасамі. А тут яшчэ дачка Каця завітала з сыночкамі Дэвідам і Кевінам. Я назірала, з якім замілаваннем глядзела Людміла Мікалаеўна на сваіх родных, якім шчасцем свяціліся яе вочы! І падумала: у гэтай цудоўнай жанчыны акрамя ўсяго ёсць вялікі талент быць шчаслівай. Не кожнаму такое даецца, а яе Бог адарыў. Нездарма так шчыра і пранікнёна яна моліцца яму кожны дзень і дзякуе за ўсё, што выпала на долю.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ.**

**Фота аўтара.**

МУДРЫЕ МЫСЛИ

Вольтер:

***«Мне ненавистны ваши убеждения, но я готов отдать жизнь за ваше право высказывать их».***



З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

# Міхась БАРАЗНА: «Ні на якое павышэнне не збіраюся»



*Не так даўно на некаторых сайтах з'явілася інфармацыя пра тое, што рэктар Акадэміі мастацтваў Міхась Баразна можа ачоліць Міністэрства культуры. Цяперашняга міністра Барыса Святлова бліжэйшым часам людская пагалоска адпраўляе на дыпламатычную працу. "Народная Воля" вырашыла даведацца, як паставіўся да гэтай інфармацыі сам Баразна і ці сапраўды ён марыць стаць міністрам.*

*"Ні на якое павышэнне не збіраюся, а чуткі каментаваць не буду,* – адказаў Міхась Рыгоравіч. – *Гэта ўсё глупыя домыслы!"*

На пытанне пра міністэрскія амбіцыі Баразна адказаў так: *"Мой светапогляд, мой уласны свет – гэта асабістае і тычыцца толькі мяне, таму я не збіраюся гэта агучваць..."*

Ад інтэрв'ю ён таксама адмовіўся: *"Я даю іх вельмі рэдка і толькі калі для гэтага ёсць вялікая неабходнасць, важная нагода, а зараз нічога такога няма".*

## З асабістай справы

Міхась Баразна нарадзіўся ў 1962 годзе.

У 1985 годзе скончыў мастацка-прамысловы факультэт Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута.

З 1986 па 1992 год – мастацкі рэдактар выдавецтва «Беларусь».

З 1992 года выкладае ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, у 1996–1998 гадах – в.а. загадчыка кафедры гісторыі і тэорыі мастацтваў, з 1999 года – прарэктар, з 2010-га – рэктар Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў.

Кандыдат мастацтвазнаўства, прафесар кафедры гісторыі і тэорыі мастацтваў, дацэнт.

Ганаровы член Расійскай акадэміі мастацтваў, член грамадскага аб'яднання «Беларускі саюз мастакоў».

*"Баразна – таленавіты мастак і арганізатар з еўрапейскім лоскам у манерах і паводзінах"*, – распавядалі пра Баразну калегі, калі яго прызначылі рэктарам Акадэміі. Пры гэтым яго называюць інтравертам і *"загадкавай постаццю".*

**Марына КОКТЫШ.**

ГАСТРОЛЬ

# Гарык Сукачоў едзе ў Мінск на імяніны



*На пачатку снежня ў канцэртнай зале Prime Hall гандлёвага цэнтра «Замак» з праграмай «Гары-Гары!» выступіць **Гарык Сукачоў**. Квіткі на канцэрт некалькі дзён таму з'явіліся ў продажы.*

Канцэрт у Мінску стане для скандаліста і буяна Гарыка Сукачова практычна імянінным – 1 снежня музыканту споўніцца 56 гадоў. Аднак падарункі будуць чакаць у першую чаргу гледачоў. Як абяцаюць арганізатары, канцэрт на 100% будзе складацца з хітоў Сукачова за ўсе перыяды яго творчасці, у тым ліку сольнага, у складзе групы «Недатыкальныя» і «Брыгада С».

Канцэртная пляцоўка для мінскага шоу была выбрана невыпадкова. Камерная атмасфера Prime Hall як нельга лепш падыходзіць для перформансаў зоркі рок-н-ролу. Тут будуць актуальныя ўраганныя скокі пад несмяротную «Бабулю» і млявы вечар пад «Белыя дарогі».

У апошнія гады Гарык Сукачоў шмат эксперыментуе і спрабуе сябе ў розных амплуа. Чаго варта толькі яго ода савецкім хіпі ў фільме «Дом сонца»! Зрэшты, ад любых цэтлікаў, якія на яго або на яго праекты навешвае прэса, Гарык заўсёды адмахваецца. Сукачоў не раз казаў, што прыхільнікі заўсёды прымалі яго не за таго, кім ён на самай справе з'яўляецца: *«Я не быў ні бунтаром, ні панкам, ні рокерам, ні хіпі – проста іграў музыку і кайфаваў ад жыцця. Мне было не да разборак, не да падзелу на «рок» і «поп». У мяне да гэтага часу поўна прыяцеляў з любога асяроддзя, нават бандыцкага. Я звычайны чалавек. І калі хтосьці надзяляе мяне якасцямі, якіх ўва мне няма, – гэта яго праблема».*

Канцэрт Гарыка Сукачова адбудзецца 4 снежня ў Prime Hall.

*Кошт квіткоў: 1.150.000–1.750.000 рублёў.*

**Вера ВІР.**

ЖЫВАЯ ЛЕГЕНДА

# «Уладальніка Шчорсаў сустракалі як графа»

*Прадстаўнікі славутага магнацкага роду Храптовічаў з'ехалі ў эміграцыю пасля далучэння Заходняй Беларусі да СССР. Праз 76 гадоў Пётр Буцянёў, унук апошняга ўладальніка Шчорсаў, на два дні прыехаў у Беларусь. Адзінае інтэрв'ю ён даў "Народнай Волі".*



**– Доўгія гады ў Беларусі нічога не ведалі пра нашчадкаў вашага роду. Як вас знайшлі?**

– Праз інтэрнэт. Некалькі гадоў таму да мяне праз "Фэйсбук" прыйшло паведамленне ад тэолага Наталлі Васілевіч *(дарэчы, выпускніцы знакамітага Коласаўскага ліцэя)*. Яна запыталася, ці не з'яўляюся я далёкім сваяком роду Храптовічаў *(у 1891 годзе, калі мужчынская галіна роду Храптовічаў згасла, права карыстацца гэтым прозвішчам атрымалі іх сваякі Буцянёвы. З таго часу іх называлі Храптовічы-Буцянёвы)*. Я адказаў, што гэта мае родзічы. Мой дзядуля валодаў Шчорсамі да 1939 года.

– Я шмат гадоў ведала пра існаванне вядомага багаслова Буцянёва, – *далучаецца да размовы Наталля*. – Але ніколі не атаясамлівала яго з нашчадкам магнацкага роду. У 2009 годзе разам з праваслаўнай моладдзю Мінска і Ліды я ўдзельнічала ў місіянерскім сплаве па рацэ Нёман. Адной з кропак маршруту былі Шчорсы. Тэмы рэлігіі і гісторыі ў маёй свядомасці пачалі зближацца. А ў 2010-м у Нацыянальнай бібліятэцы прэзентавалі мультымедыйнае выданне пра шчорсаўскі кнігазбор, якое падрыхтавала наша Нацыяналка і кіеўская бібліятэка імя Вярнадскага. У дакладах разам з прозвішчам Храптовічаў неаднаразова згадваліся Буцянёвы. Я наважылася і напісала Пятру.

**– Пётр, якія першыя ўражанні ад наведвання Шчорсаў?**

– У суседнім Навагрудку да мяне падышла жанчына, якая прасіла прабачэння за сённяшні стан сядзібы. Яшчэ адзін мясцовы жыхар спачуваў мне: напэўна, вам жахліва бачыць яе жахлівы стан. Але ў мяне не было шоку або празмернага расчаравання. Я нарадзіўся ў Нью-Ёрку, таму не маю памяці пра Шчорсы і не баюся яе страціць. Наадварот, я шчаслівы: я ўбачыў гэтае месца, пра якое шмат чуў ад родзічаў. Дарэчы, асобныя сваякі, якія нарадзіліся яшчэ "за польскім часам", памятаюць Шчорсы. Яны марылі прыехаць са мной, але не змаглі. Дазнаўшыся пра маю паездку, яны перадавалі нізкія паклоны гэтай зямлі. Цяпер я праклаў для іх сцежку.

– Храптовіча сустракалі як графа! – *дадае Наталля Васілевіч.* – Напрыклад, мы вырашылі пакатацца на чоўне па сажалцы. Знайшлі тэлефон яго ўладальніка. Набіраем яго нумар, ён адмаўляецца прыходзіць. Але як толькі пачуў пра Храптовіча, прыбег адразу. І адмовіўся браць грошы. Са Шчучына мы паехалі ў вёску Адампаль, якая калісьці належала Храптовічам. Каля будынка бровара (таксама маёмасць гэтага роду) сустрэлі старую жанчыну. Запыталіся ў яе сёе-тое, і яна, як даведалася, што наш госць з Храптовічаў, адразу пачала распавядаць гісторыю пра бровар. Як у вайну яго разбамбілі, і блакітны спірт цёк нібыта ажно да Карэлічаў. Пры гэтым жанчына сказала, што ў гэтыя мясціны прыехала толькі ў 1950-я гады, калі выйшла замуж, але ўсё расказвала, быццам сама была відавочцам падзей. Для мясцовых жыхароў Пётр Буцянёў – чалавек з легенды, летапісны, легендарны "князь", "граф", які раптам містычным чынам аднекуль з'явіўся, і навакольная легенда ажыла.

– Больш за тое, яшчэ ёсць людзі, якія засталі часы Заходняй Беларусі, – *гаворыць Пётр*. – У Дзмітрыеўскай царкве мы замовілі паніхіду. Пасля яе да нас падышла жанчына сталага веку. Яна ўзгадала ўсіх маіх дзядзькаў і цётак. Ёй каля 83 гадоў, але яна ўсіх іх памятае.

**– У 1939 годзе вашы бабуля і дзядуля – граф Апалінарый Храптовіч-Буцянёў разам з жонкай Вольгай былі арыштаваны, але потым змаглі эмігрыраваць. Яны змаглі вывезці на Захад матэрыяльныя каштоўнасці?**

– Амаль нічога. Толькі асабістыя рэчы (напрыклад, пярсцёнкі), асобныя карціны і гравюру, на якіх намаляваны прадстаўнікі роду Храптовічаў (у тым ліку гравюру Іахіма Храптовіча, апошняга канцлера ВКЛ). Ніякай мэблі захапіць з сабой не змаглі. У Францыі, а пасля ў Амерыцы Храптовічам давялося пачынаць з нуля: прыбіраць дамы і працаваць на фабрыках. Цяпер прадстаўнікі роду Храптовічаў пераважна жывуць у ЗША. Мой брат – доктар. Сёстры працуюць адміністратарамі школ. Стрыечны брат – праваслаўны святар. Шмат настаўніц (сярод іх мая мама). Бацька быў банкірам (ён памёр у 1992 годзе).

**– У эміграцыі вас выхоўвалі як беларуса?**

– Нас гадавалі як нашчадкаў беларускай і рускай культур. Я ўспрымаю сябе амерыканцам рускага і беларускага паходжання. У сям'і мы размаўлялі па-руску. З тым разлікам, што англійскі прыйдзе натуральна. Наступнае пакаленне Храптовічаў-Буцянёвых ужо іншае. Ніхто з маіх дзяцей не размаўляе па-руску.

**– Пётр, а як вы ставіцеся да рэстытуцыі? У Прыбалтыцы былыя ўладальнікі атрымалі ўсю сваю ранейшую маёмасць.**

– У Беларусі пра гэта не можа нават ісці гаворкі. Ні сам я, ні мае сваякі пра тое нават не марылі.

**– Храптовічы гатовы спрыяць аднаўленню Шчорсаў?**

– Нават не ведаю, што адказаць на ваша пытанне. Трэба, каб прайшоў час, каб у Беларусі з'явілася цікавасць да той спадчыны. Я першы з роду Храптовічаў, хто вярнуўся ў Шчорсы. Да гэтага моманту мы ні разу не ўздымалі гэта пытанне.

**– Тады, можа, вы паспрыяеце вяртанню ў Беларусь бібліятэкі Храптовічаў? Нагадаю, што ў 1913 годзе яе перадалі Кіеўскаму ўніверсітэту на часовае валоданне. З умовай: калі ў Беларусі адкрыецца ўніверсітэт, бібліятэка будзе вернута. Але кніжны збор па-ранейшаму ў Кіеве…**

– Даведаўся пра тое днямі. Я шчыра здзіўлены. Храптовічы думалі, што бібліятэка знаходзіцца ў Навагрудку або ў Мінску. Ніхто нават не здагадваўся, што яна па-ранейшаму застаецца ў Кіеве…

**– Ваш дзядуля пражыў у Шчорсах усяго чатыры гады (у 1935-м ён прыехаў туды з Парыжа). Пасля яго чакаў арышт. Ён не шкадаваў пра сваё вяртанне?**

– Ніколі! Гэтыя гады былі самымі каштоўнымі і цудоўнымі ў іх біяграфіі. Жыць у Шчорсах, з гэтымі людзьмі было сапраўдным шчасцем.

## Дасье «Народнай Волі»

*Пётр Буцянёў – унук апошняга ўладальніка Шчорсаў Апалінарыя Буцянёва-Храптовіча. Нарадзіўся ў 1960 годзе ў Нью-Ёрку. Скончыў Кансерваторыю Новай Англіі (Бостан; 1983), Свята-Уладзімірскую духоўную семінарыю ў г.Крэствуд (штат Нью-Ёрк, ЗША; 1990), Оксфардскі ўніверсітэт (Вялікабрытанія; 1992). У 1997 г. абараніў доктарскую дысертацыю па багаслоўі ў Оксфардскім універсітэце на тэму "Багаслоўскае значэнне чалавечай іпастасі Ісуса Хрыста ў кападакійскіх айцоў". Быў выкладчыкам дагматычнага багаслоўя ў Свята-Уладзімірскай духоўнай семінарыі ў г.Крэствуд (ЗША; 1993–1994). Прафесар. Выканаўчы сакратар камісіі Сусветнага савета цэркваў "Вера і царкоўны лад" у 1995–2000 гадах. З 2000 г. – асістэнт прафесара дагматычнага багаслоўя ў Свята-Уладзімірскай духоўнай семінарыі. З 2000 г. – кансультант адмысловай камісіі па праваслаўнай прысутнасці ў Сусветным савеце цэркваў. Жанаты, мае двух дзяцей.*

## Дарэчы

Частка кнігі ўспамінаў "Злом", якую напісала Вольга Храптовіч-Буцянёва, бабуля нашага суразмоўцы, у лістападзе 2011 года друкавалася ў "Народнай Волі". Знайсці яе можна ў нумарах 172–173 (3508–3509), электронную версію – на сайце "Народнай Волі" *www.nv-online.info.*

**Дзяніс МАРЦІНОВІЧ.**

ТАКАЯ ЖИЗНЬ

# Отец решил отказаться от сына…

Стремление родителей обеспечить своим детям благополучное будущее понятно, но иногда оно приобретает совершенно невероятные формы. На днях в суде Каменецкого района рассматривалось дело о лишении родительских прав, которое никак не назовешь рядовым. Папа решил отказаться от сына, посчитав, что статус сироты даст тому привилегии в жилищном вопросе.

О судебном процессе рассказала газета «Вечерний Брест».

*«Я, Иванов Иван Иванович, отказываюсь от своего ребенка – несовершеннолетнего сына Никиты, 1998 года рождения, и даю согласие на его дальнейшее усыновление без указания конкретного лица,* – говорится в заявлении на имя суда. – *Причина отказа от ребенка – не принимаю участия в его воспитании и содержании, тяжелое материальное положение».*

История получилась следующая. Никита остался без мамы, когда ему было три года. Старшие братья и сестры, рожденные в предыдущем браке мамы, попали в детский дом, а Никиту взяла на воспитание его родная тетя, сестра Ивана.

– Я очень люблю Никиту, но обстоятельства складывались так, что я не мог быть с ним все время, – пояснил в суде отец, когда его спросили, почему ребенок живет не с ним. Обстоятельства – это работа в России. Несколько лет подряд мужчина ездил туда на заработки, а когда окончательно вернулся в родное село, Никита уже привязался к тете и называл ее мамой. Живущий с сестрой по соседству папа о ребенке не забывал, помогал деньгами и советом, и отношения между ними сложились самые дружеские.

– Как ты относишься к тому, что папа хочет от тебя отказаться? – спросила судья.

– Нормально, – ответил Никита. – Так всем будет лучше.

Что всем будет лучше, если Никиту признают круглым сиротой, решила дальняя родственница покойной жены Ивана Ивановича.

– Ты со своей зарплатой ничего не сможешь ребенку дать, – заявила она. – А так он хоть квартиру получит.

Иван долго не соглашался, но в конце концов его уговорил сын:

– Мы ведь по-прежнему будем с тобой видеться. Это же просто формальность. А я хоть квартиру получу.

У Никиты пример перед глазами: двое из четырех его старших братьев и сестер, которые после смерти матери были признаны сиротами, уже получили социальное жилье в Бресте. Предложение тетушки они поддерживают двумя руками: нельзя, чтобы Никита, которому уже 17 лет, упустил сроки и остался ни с чем.

Когда суд отказал Ивану Ивановичу в лишении его родительских прав, мужчина заплакал – от облегчения. А вот Никита явно огорчился. Теперь у него не будет бесплатного жилья и других благ, которые виделись ему за статусом круглого сироты.

ПРАЕКТЫ

# Трамвай у Лагойск і машына ў кожную сям'ю



*Якім будзе Мінск к 2030 году? Які буйны горад з'явіцца недалёка ад сталіцы? Якія прадпрыемствы вынесуць за мяжу горада? Як пройдзе чацвёртая лінія метро? "Народная Воля" ўважліва прачытала карэкціроўку Генеральнага плана Мінска, які прэзентавалі грамадскасці. Гэты 130-старонкавы дакумент разлічаны на перыяд да 2030 года.*

## Стаўка на гарады-спадарожнікі

Аўтары Генеральнага плана спадзяюцца, што насельніцтва Мінска будзе павялічвацца. Але нязначна. Нагадаю, што на пачатак 2015 года ў горадзе жылі 1 мільён 938 тысяч чалавек. Плануецца, што к 2030 году колькасць мінчан дасягне двух мільёнаў. Але як забяспечыць такі малы прырост? Стаўка робіцца на рост гарадоў-спадарожнікаў: Рудзенска, Дзяржынска, Смалявічаў, Заслаўя, Фаніпаля і Лагойска, насельніцтва якіх павінна павялічыцца на 120 тысяч. З іх 50 тысяч складуць мінчане, якім трэба палепшыць жыллёвыя ўмовы, астатнія прыедуць з іншых рэгіёнаў Беларусі. Межамі мінскай агламерацыі стане другая кальцавая аўтадарога. "Зорная гадзіна" чакае Рудзенск. Яго насельніцтва мусіць павялічыцца ажно на 70 тысяч. Існуе адно "але". Ідэі стварэння гарадоў-спадарожнікаў агучваюцца ўжо некалькі гадоў. Але адпаведнай інфраструктуры для жылля ў іх пакуль так і не створана.

## Будуемся ўнутры МКАД

Будаўніцтва жылля для жыхароў Мінска працягнецца ва ўсіх накірунках унутры МКАД. Выключэннем стане паўночны накірунак (працяг Даўгінаўскага тракту). Чаму? Там знаходзяцца сельскагаспадарчыя тэрыторыі. Аляксандр Лукашэнка супраць таго, каб выводзіць іх з абароту. Выключэнне іншага кшталту – жыллёвы раён "Зялёны Бор" (раён былых вайсковых палігонаў), размешчаны пад Бараўлянамі. "Зялёны Бор" будзе лічыцца рэзервам Мінска.

У тым, што ён спатрэбіцца, сумненняў няма. Згодна з перапісам 2009 года, 183,7 тысячы пастаянных жыхароў Мінска не маюць асобнай кватэры або дома. Прычым летась на ўліку знаходзілася 520 тысяч мінчан, якім трэба было палепшыць умовы жыцця. Самі аўтары Генеральнага плана прызнаюць: гэта ў 9–10 разоў больш, чым у Маскве або Санкт-Пецярбургу (калі параўноўваць суадносіны гэтай катэгорыі людзей да агульнай колькасці насельніцтва).

## Замест сядзібнай забудовы – жыллё пад Мінскам

Дзе жывуць сучасныя мінчане? Пераважна ў шматкватэрных дамах (94% жылога фонду). Астатняя частка прыходзіцца на сядзібную забудову (драўляныя дамы і катэджы). Яна займае ажно 22% усіх жылых тэрыторый. Але ў сваіх прыватных уладаннях жывуць усяго 73,9 тысячы мінчан. Такі падыход прызнаны бесперспектыўным і эканамічна затратным. У якасці аргумента дзяржава дэманструе наступныя разлікі: у прыватных дамах, якія займаюць 10 гектараў, цяпер могуць жыць 360–380 жыхароў. Калі на гэтай тэрыторыі пабудуюць шматкватэрныя дамы, там размесціцца ў 7–8 раз больш (да трох тысяч). Таму стаўка робіцца на жыллё каля сталіцы. Маўляў, вёскі Мінскага раёна маюць малую шчыльнасць. Таму тых, чые дамы будуць зносіць, могуць перасяліць туды. Апроч таго, у Мінскім раёне кожны другі метр жылой плошчы кватэр (або дамоў) нібыта належыць мінчанам.

Што тычыцца сядзібнай забудовы ў сталіцы, то на яе тэрыторыі забаронена ўзводзіць новае жыллё, а таксама займацца агародніцтвам.

## Прадпрыемствы пакінуць у сталіцы

У ідэальным горадзе прамысловыя прадпрыемствы размешчаны на ўскраіне або за кальцавой. Але, згодна з планам, з Мінска плануюць вынесці толькі два прадпрыемствы: агракамбінат "Ждановічы" (на вуліцы Брыкетнай) і Мінскі парнікова-цяплічны камбінат (па вуліцы Парніковай). Яшчэ два прадпрыемствы грузавога транспарту ("БелАТЭП" на вуліцы Рыбалкі і "Аўтасіла" на вуліцы Чыгуначнай) зменяць сваю геаграфію (іх перанясуць бліжэй да ўскраін). У дадатак амаль дзясятак прадпрыемстваў чакаюць аптымізацыя і трансфармацыя вытворчых тэрыторый (заводы "Керамін", "Мінскдрэў" і іншыя). Але астатнія фабрыкі і заводы застаюцца ў сталіцы. На жаль, замест таго, каб займацца іх лёсам, гарадскія ўлады змагаюцца з сядзібнай забудовай.

## Метро па «другім коле»

На дадзены момант Мінскі метрапалітэн складаецца з дзвюх ліній. Ужо пачалося будаўніцтва трэцяй. А вось чацвёртую лінію (яна мусіла прайсці з Вяснянкі да Серабранкі і Чыжоўкі) пракладуць па іншым маршруце: уздоўж "другога кола" (па вуліцы Арлоўскай, праспекце Пушкіна, вуліцах Аэрадромнай, Дзяніcаўскай). З 17 станцый шэсць плануюць зрабіць перасадачнымі (у раёне цяперашніх або будучых станцый метро "Плошча Бангалор", "Акадэмія навук", "Трактарны завод", "Аэрадромная", "Міхалова" і "Пушкінская"). Праўда, калі пачнецца будаўніцтва чацвёртай лініі, не вядома. Напэўна, спачатку трэба пракласці трэцюю.

З астатніх відаў транспарту найбольшае развіццё чакае трамвай. Працягласць шляхоў павялічыцца з 24 да 45,7 кіламетра. Усе ранейшыя лініі захаваюцца. У перспектыве іх плануюць прадоўжыць да Сухарава, а таксама пабудаваць загарадныя лініі ў Нацыянальны аэрапорт Мінск (з абслугоўваннем мікрараёна "Сокал"), Беларуска-Кітайскі індустрыяльны парк, а таксама ў Лагойск (з абслугоўваннем Бараўлян і спартыўнага комплексу "Раўбічы").

## Машына – у кожную сям'ю

Новы Генеральны план абяцае даброты для ўсіх удзельнікаў гарадскога руху: аўтамабілістаў, веласіпедыстаў і пешаходаў. Плануецца, што к 2030 году на 1 тысячу жыхароў будзе прыходзіцца 350 машын (адна машына на сям'ю). Апроч таго, улады абяцаюць абсталяваць дваровыя тэрыторыі жылых раёнаў закрытымі велапаркоўкамі. Прычым на дзве кватэры мусіць прыходзіцца не менш за адно паркавачнае месца. Што тычыцца пешаходаў, дык шэраг вуліц у цэнтры могуць атрымаць статус пешаходна-транспартных (Зыбіцкая, Энгельса, Герцэна, Кірыла і Мяфодзія, Камсамольская, Ракаўская, Вызвалення, Рэвалюцыйная, Старавіленская, завулак Музычны і Камунальная набярэжная). Заўважым, што гаворка пра пешаходныя вуліцы таксама ідзе ўжо некалькі гадоў. Ці атрымаецца гэтым разам?

## Рэклама пра крэмацыю?

Не абмінаюць аўтары праекта і такую тэму, як пахаванне. Плануецца пабудаваць трое новых могілак (плошчай 50 га кожнае) у паўднёвым, паўднёва-заходнім і паўднёва-ўсходнім накірунках ад Мінска. Адлегласць ад горада павінна складаць не больш за 30 кіламетраў. На 16 могілках, якія раней былі зачынены (іх назвы не ўдакладняюцца), дазволяць рабіць падзахаванні да магіл сваякоў.

Дзяржава адкрыта кажа пра прыярытэт крэмацыі над пахаваннямі ў магілах. Прычым у тэксце Генплана сцвярджаецца: крэмацыю плануецца зрабіць больш таннай ("рэалізаваць коштавую палітыку, якая стымулюе гэты накірунак") і нават "узмацніць тлумачальную палітыку ў СМІ з мэтай пераадолення насельніцтвам псіхалагічных і культурных бар'ераў".

## Мінск залежыць ад нас

Дзякаваць Богу, астатнія палажэнні плана тычацца жывых людзей. Прычым, калі верыць дакументу, гэты клопат цалкам рэальны. Уздоўж чыгункі і МКАД гарадскія ўлады нарэшце збіраюцца будаваць дамы, сцены якіх будуць абараняць ад шуму, а таксама спецыяльныя экраны, якія будуць не прапускаць гук. Палепшыцца і якасць вадаёмаў. Плануюць мадэрнізаваць Мінскую ачышчальную станцыю. Дзякуючы гэтаму палепшыцца якасць вады ў каскадзе вадаёмаў на рацэ Свіслач.

*Зрэшты, настойліва раім вам: азнаёмцеся з планам самі. Надрукаваць 130-старонкавы дакумент "Народная Воля" не мае магчымасці. Між тым у Генеральным плане прапісаны лёс канкрэтных вуліц і мікрараёнаў. Экспазіцыя плана выстаўлена ў будынку "Мінскграда" (вул.Камсамольская, 8, другі паверх, пакой 204) да 5 лістапада. З панядзелка па пятніцу экспазіцыя даступна з 14.00 да 18.00, у суботу і нядзелю – з 10.00 да 15.00.*

**Максім ПЛОТНІКАЎ.**

КРЫЖАВАНКА

# Міхал Клеафас Агінскі

## Да 250-годдзя з дня нараджэння



**Па гарызанталі:** 1.Асоба, упаўнаважаная ўрадам ажыццяўляць афіцыйныя зносіны з замежнымі дзяржавамі. Такія функцыі здзяйсняў кампазітар, паэт, вялікі падскарбій літоўскі М.Агінскі: быў паслом на сойме, а ў 1789 годзе – надзвычайным пасланнікам у Галандыі. 4.Сядзіба М.Агінскага на Смаргоншчыне (раней – Ашмянскі павет), дзе кампазітар стварыў лепшыя музычныя творы, у тым ліку і сусветна вядомы паланэз ля-мінор "Развітанне з Радзімай". 8."Воі прагнуць волі, воля – свет і доля.//Броні звон ды коні, коні – ... "Пагоні" – з песні на музыку паланэза М.Агінскага "Развітанне з Радзімай" (словы С.Сокалава-Воюша); на музыку паланэза напісаны яшчэ шэсць вершаў, у тым ліку верш Ул.Караткевіча. 9.Адна з разнавіднасцяў музычнага тэатра. 11.Асноўны матыў, які паўтараецца на працягу ўсяго музычнага твора. 12.Наносны пясчаны пагорак. 14.Вершаваная страфа з чатырох радкоў. 18.Месца, па якім сцякае вада. 19.Праграма якога-небудзь дзеяння. 21.Чарада птушак. 22.Травяністая расліна, якая знайшла асаблівае месца ў беларускім песенным вясельным фальклоры. 24.Спецыяльна ўстаноўлены рэжым харчавання. 25.Сукупнасць нормаў паводзін. 29.Узброенае выступленне супраць царскай Расіі пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі, у якім актыўны ўдзел браў М.Агінскі. 31.Элементарная адзінка музычнага метра. 33. ... Янушкевіч – імя беларускага скульптара, аўтара помніка М.Агінскаму ў Маладзечне. 34.Старадаўні клавішна-струнны музычны інструмент.

**Па вертыкалі:** 2.Рака, левы прыток Прыпяці. 3. ... – сядзіба М.Агінскага. Культурная ўстанова, якая існуе зараз на былой сядзібе кампазітара. 5.Раздзел суднаваджэння. 6.Роўная бязлесная прастора. 7.Урачыстая песня, сімвал дзяржаўнага адзінства Польшчы, музыку да якой прыпісваюць М.Агінскаму. 8.Агульнае найменне струнных клавішных музычных інструментаў, для якіх першапачаткова быў напісаны вядомы паланэз Агінскага. 10.Міжнародная ўстанова па культуры, адукацыі і навуцы, якая 2015 год аб'явіла Годам М.Агінскага. 13.Той, хто апякуецца якой-небудзь справай. Ім быў М.Агінскі, які рабіў ахвяраванні для касцёла і кляштара ў мястэчку Смілавічы; на яго сродкі быў пабудаваны Агінскі канал, які злучаў р.Ясельду з р.Шчарай. 15.Навуковая праца, якую пад назвай "Лісты пра музыку" напісаў М.Агінскі ў 1828 годзе. 16.Гарманічнае спалучэнне некалькіх музычных гукаў рознай вышыні. 17.Музычна-драматычны твор, напрыклад ... "Зяліда і Валькур, або Банапарт у Каіры", аўтарам музыкі і лібрэта да якой з'яўляецца М.Агінскі. 20."... Агінскага" – пад такой назвай сёлета з 25 красавіка па 12 снежня праходзіць музычны фэст, які ўзначальвае музыкант, музыказнаўца А.Фралоў. 23. Краіна, у якую М.Агінскі выехаў у 1823 годзе, дзе і знайшоў свой апошні прытулак. 26.Музычны лад бадзёрай, радаснай гукавой афарбоўкі. 27.Стадыя якога-небудзь працэсу. 28. ... М.Агінскага "Мемуары пра Польшчу і палякаў з 1788-га па 1815 г." у 4 тамах, якая была выдадзена ў г.Парыжы. 30.Скульптура тулава чалавека. 32.Чацвёртая нота музычнай гамы.

### Адказы на крыжаванку

**Па гарызанталі:** 1.Дыпламат. 4.Залессе. 8.Кліч. 9.Рэвю. 11.Лейтматыў. 12.Выдма. 14.Станс. 18.Сцёк. 19.План. 21.Шнур. 22.Рута. 24.Дыета. 25.Этыка. 29.Паўстанне. 31.Доля. 33.Валяр'ян. 34.Клавесін.

**Па вертыкалі:** 2.Пціч. 3.Музей. 5.Лоцыя. 6.Стэп. 7.Гімн. 8.Клавір. 10.ЮНЕСКА. 13.Мецэнат. 15.Трактат. 16.Акорд. 17.Опера. 20.Год. 23.Італія. 26.Мажор. 27.Этап. 28.Кніга. 30.Торс. 32.Фа.

**Склаў Лявон ЦЕЛЕШ.**

*г.Дзяржынск.*

СКАНДАЛ

# «Ці ж я пасля такога пайду на футбол як глядач?!»



Каляфутбольны скандал пасля затрымання міліцыяй балельшчыкаў, на якіх былі шалікі з выявай "Пагоні", на матчы Беларусь–Македонія, суды над імі, штрафы... Усё гэта выклікае брыдкае пачуццё.

Ну няхай бы міліцэйскае начальства шчыра сказала: "Так, нашы маладыя хлопцы-міліцыянеры перагнулі палку, да канца не разабраліся, якая там сімволіка забароненая, а якая не, няправільна паводзілі сябе..." Дык не ж!

*"У сітуацыі з футбольнымі фанатамі была тая ж сітуацыя: калі некалькі разоў ім зрабілі заўвагу за нецэнзуршчыну – ёсць і відэазапісы, і паказанні сведак, што гэта пацвярджаюць, яны не рэагавалі на гэта – знаходзіліся ў нецвярозым стане. Гэта звычайная практыка навядзення парадку на масавых мерапрыемствах, да якіх адносіцца і футбольны матч"*, – заявіў кіраўнік МУС.

Праўда, наколькі вядома, відэазапісы, дзе зафіксавана, што фанаты мацюкаліся, да гэтага часу грамадскасць не бачыла. Сярод тых, каго забралі "ў нецвярозым стане", адзін наогул не ўжывае алкагольныя напоі. "Паказанні сведак" – гэта паказанні саміх міліцыянераў.

*"Самае брыдкае ў гэтай сітуацыі – тое, што ўзнікае адчуванне безвыходнасці*, – напісаў вядомы беларускі спартыўны журналіст **Сяргей Новікаў**. – *Суд прымае да ўвагі блытаныя паказанні прадстаўнікоў нашага суверэннага парадку, якія дачапіліся да хлопцаў, і пакідае без увагі паказанні сведак іншага боку... Я кажу адразу пра суд, таму што ўжо гэтая інстанцыя павінна захоўваць хаця б фармальныя прыкметы адданасці закону, юрыдычнай логіцы і працэдуры. Бо абсалютна відавочна, што з некалькіх дзясяткаў людзей, якія знаходзіліся ў фанацкім сектары, забралі траіх, у гардэробе якіх былі шалікі з "Пагоняй". Пра іх, да слова, у апошнія дні было шмат напісана і сказана ў СМІ. Яны і самі не маўчаць. Гэта на самай справе інтылігентныя і адэкватныя хлопцы, якія любяць футбол і сваю краіну. Дарэчы, добра запомніў іх, калі праглядаў запіс тэлетрансляцыі матча. Сектар фанатаў у першым тайме паказалі некалькі разоў. Там не адбывалася нічога экстрэмальнага і супрацьзаконнага. Але шалікі са старажытным беларускім гербам праглядаліся вельмі добра. Выкажу канспіралагічную версію: менавіта таму амапаўцам і паступіла каманда "фас", выконваць якую яны кінуліся ў перапынку"*.

Пра ўзаемаадносіны міліцыі і балельшчыкаў пішуць ужо доўгі час, а воз – на месцы. Кіраўнік Беларускай федэрацыі футбола **Сяргей Румас**, які вырашыў *"змагацца за рост наведвальнасці стадыёнаў"*, напэўна, мае ў вачах міліцыі такую ж вагу, як і тыя балельшчыкі, якія прасядзелі пасля футбола ноч за кратамі ды яшчэ і заплацяць па 100 долараў штрафу. Дык каму патрэбны такі футбол?

Але, напэўна, самым красамоўным момантам таго, што сёння адбываецца, стаў расказ галоўнага трэнера нацыянальнай зборнай **Аляксандра Хацкевіча** пра тое, як ён вырашыў схадзіць на стадыён у якасці гледача:

*«Нядаўна я быў на гульні «Шахцёра» і «Мінска». 20.00. Нядзеля. Вольны ўваход. Чалавек у чорнай форме задае мне пытанне: «Хто такі?» Кажу: «Трэнер нацыянальнай зборнай па футболе». Па рацыі ў амапаўца пытаюцца: «Хто там?» – «Нейкі трэнер нейкай зборнай». – «Не нейкі трэнер, – кажу, – а трэнер нацыянальнай зборнай». З рацыі: «Абшукаць!» Няма пытанняў – абшукалі. Пытаюся: «Усё?» – «Не, вунь туды падышоў і паглядзеў у камеру». Каля камеры стаіць такі ж дзяцюк. Я падыходжу, пачынаю ўсміхацца. Рэакцыя: «Я сказаў: не ўсміхацца наогул!» Ці ж я пасля такога пайду на футбол як глядач?! Не! Але ў мяне ёсць праца. Я павінен глядзець матчы».*

Тут, як кажуць, ні адняць, ні дадаць. Такі ў нас футбол. Такая ў нас краіна...

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

* На матчы Беларусь–Македонія быў зафіксаваны антырэкорд па наведвальнасці – каля 1500 гледачоў



НА ЗДОРОВЬЕ!

# Ягоды, которые помогут вам бороться с простудами

*Брусника, калина, клюква, рябина, шиповник -- настоящая сокровищница витаминов, микроэлементов и полезных веществ. В период зимних холодов они укрепят организм, поддержат иммунитет и помогут бороться с простудами.*

### Шиповник

***Шиповник легко сохранить, засушив его. Сушеные плоды по содержанию витаминов и полезных веществ не отличаются от свежих. Из шиповника можно приготовить вкусные и полезные витаминные напитки – чаи, настои, отвары.***

#### Кисель из шиповника

**Плоды шиповника (можно использовать сушеные) – 50–100 г, вода – 1 л, крахмал – 10–15 г, сахар по вкусу.**

Плоды шиповника переложите в эмалированную кастрюлю, залейте горячей водой, накройте и оставьте на три часа. Переставьте настой с ягодами на плиту, разомните ягоды и варите 10–15 минут. Вновь хорошо разомните ягоды и процедите отвар через двойной слой марли. Процеженный отвар верните на плиту, добавьте сахар по вкусу и нагревайте все до полного растворения сахара. Немного горячего отвара добавьте к крахмалу и хорошо перемешайте, он должен полностью раствориться. Перелейте крахмал в кастрюлю и, помешивая, заварите кисель. Как только кисель загустеет, снимите его с огня и остудите.

### Клюква

#### Клюква в сахарной пудре

**Клюква – 300 г, сахарная пудра – 300 г, яйцо – 1 шт.**

Ягоды клюквы промойте, откиньте на сито и обсушите бумажными полотенцами. Удалите раздавленные и помятые ягоды, если такие есть. Разбейте яйцо и отделите белок от желтка (желток нам не понадобится). Взбейте белок венчиком, добавьте к белку клюкву и перемешайте. Откиньте ягоды на сито, чтобы стек лишний белок. Обваляйте ягоды в сахарной пудре и подавайте.

#### Клюквенный сбитень

**Клюква – 1 стакан, вода – 1 л, мед – 2–3 ст. ложки, корица – 1 палочка, гвоздика – 2–3 бутончика, мускатный орех, кардамон.**

Ягоды клюквы промойте и бланшируйте несколько минут в литре кипящей воды. Откиньте на сито, чтобы вода стекла. Переложите ягоды в эмалированную кастрюлю и разомните деревянной толкушкой. Влейте один литр холодной воды, добавьте специи и доведите до кипения. Варите пять минут на небольшом огне. Процедите горячим и добавьте мед, перемешайте до полного растворения меда. Оставьте настояться. Подавайте сбитень горячим или охлажденным.

### Рябина

***Рябину собирают после первых морозов. Именно в это время ягоды теряют свою терпкость и становятся сладкими. Из рябины готовят наливки и настойки, а также варенья и морсы, добавляют в сладкую выпечку.***

#### Пастила из рябины

**Рябина – 1 кг, сахар – 1 кг, вода – 1 стакан.**

Ягоды рябины промойте и обсушите. Пересыпьте рябину в огнеупорную форму, долейте воды, немного разомните ягоды ложкой и поставьте в духовку. Готовьте рябину при 100–120°С, периодически помешивая, пока она не размягчится. Достаньте форму из духовки, пересыпьте рябину в блендер и измельчите, затем протрите через сито. Рябиновое пюре переложите в кастрюлю с толстым дном, добавьте сахар и уваривайте на небольшом огне, пока масса не станет густой.

Застелите противень пергаментом или силиконовым ковриком, переложите на него рябиновую массу и разровняйте лопаткой, чтобы слой был тонким. Подсушивайте пастилу несколько дней в теплом сухом помещении. Готовую пастилу храните в картонных коробках, пересыпав сахарной пудрой.

### Калина

***Калину, как и рябину, лучше собирать после первых заморозков. Однако если вам попались горькие ягоды, бланшируйте их несколько минут в кипящей воде, и горечь уйдет.***

#### Пирог с калиной и яблоками

**Для теста:** яйца – 4 шт., сахар – 180 г, мука – 150–200 г, сметана – 100 г, разрыхлитель теста – 1 ч. ложка.

**Для начинки:** калина – 150 г, яблоки – 2 шт., сахар – 100 граммов.

Калину промойте и обсушите. Из яблок удалите сердцевину и нарежьте их мелкими кубиками. Смешайте в миске калину с яблоками, засыпьте сахаром и перемешайте.

Яйца хорошо взбейте. Продолжая взбивать, понемногу подсыпайте сахар. Добавьте сметану и перемешайте. Муку смешайте с разрыхлителем и введите в тесто, аккуратно перемешивая лопаткой.

Духовку разогрейте до 180°С. Форму смажьте маслом, вылейте в нее половину теста. Сверху выложите начинку из калины и яблок, залейте оставшимся тестом. Выпекайте до готовности (примерно 20–30 минут). Готовность пирога проверьте зубочисткой – она должна выйти из теста сухой.

ИЗ ПЕРВЫХ УСТ

# Виктория АЗАРЕНКО: «Победа Светланы Алексиевич проста невероятна!»

*Экс-первая ракетка мира Виктория Азаренко немногословна в общении с белорусскими журналистами, но в социальных сетях отвечает на вопросы своих болельщиков. Что в последнее время интересует ее поклонников?..*



**– Как вы себя чувствуете? Как нога?**

– Все лучше и лучше. Каждый день над этим работаю.

**– Что включают в себя ваши восстановительные процедуры?**

– Иглы, которые я абсолютно точно ненавижу, но они здорово помогают.

**– Кто, на ваш взгляд, наиболее вероятный кандидат на почетное звание «Восходящая звезда WTA»?**

– Белинда Бенчич впечатляет в этом году.

**– Помимо тенниса, какой ваш любимый командный вид спорта и что за команда у вас в фаворитах?**

– Люблю баскетбол.

**– Цели на 2016 год?**

– Главная – Олимпийские игры в Рио-де-Жанейро.

**– Самое важное в вашей жизни?**

– Семья.

**– Любимая песня для предматчевой разминки?**

– Постоянно разные.

**– Песня, которая гарантированно поднимет вас с места и пустит в пляс?**

– Что-нибудь из Криса Брауна.

**– Любимое блюдо в Нью-Йорке?**

– Хм-м... Тяжело сказать.

**– Любимая начинка для пиццы?**

– Трюфели.

**– Вы все еще носите в своей сумке для ракеток «Сникерсы» и «Кока-колу»?**

– Никогда и не носила. Думаю, вы просто не поняли шутку.

**– Обычный или горячий шоколад?**

– Исключительно горячий.

**– Этот вопрос не дает покоя мне уже долгое время... Что ты делаешь со своими старыми нарядами и кроссовками для тенниса?**

– Большинство из них безвозмездно дарю.

**– Сегодня мне приснилось, что вы советовали не влюбляться в вас. Почему вы мне приснились?**

– Не знаю. Лично мне сегодня снились кошмары.

**– Вика, самый важный вопрос... Почему вы настолько идеальная?**

– Потому что вы так считаете.

**– Когда у вас появился такой милый щенок?**

– В апреле.

**– Любимый акцент или язык?**

– Мне нравится французский, но не его произношение. А вот австралийский акцент довольно интересный.

**– Что вы посоветовали бы человеку, впервые приехавшему в Беларусь?**

– Охотно впитывать новую информацию и путешествовать по городам. Наша природа прекрасна.

**– Поздравляем писательницу из Беларуси Светлану Алексиевич, удостоившуюся Нобелевской премии! Что-нибудь читали из ее книг?**

– Пока нет, но сама по себе победа просто невероятна.

**– Одно качество, которое нравится вам больше всего в болельщиках?**

– Преданность.

**– Вы когда-нибудь неровно дышали в сторону какого-нибудь теннисиста?**

– Да, было такое. В сторону Марата Сафина.

**Подготовил Александр НИКОНОРОВ.**

ХАКЕЙ

# Мінскае «Дынама»: не фарціць...

*Выступленне мінскага хакейнага "Дынама" ў чэмпіянаце КХЛ пакуль выклікае дваякія пачуцці.*

З аднаго боку, "Зубры" часам паказваюць проста неверагодна прыгожыя па напале і драматызме матчы, калі проста на волі і жаданні перамагчы дацiскаюць саперніка. У асобных гульнях, наадварот, назіраецца нейкая апатыя, хакеісты бегаюць без настрою, як быццам на лёд выйшла зусім іншая каманда.

Безумоўна, патрабаваць, каб каманда ўвесь сезон прайшла роўна, на адным уздыху, было б няправільна. У кожнага ёсць свае ўзлёты і падзенні. Тым больш што зараз фартуна як быццам адвярнулся ад мінскага "Дынама". У апошнія дні лазарэт каманды налічваў адразу шэсць прозвішчаў – **Раян Веске, Алег Гарошка, Аляксандр Кулакоў, Шарль Лінгле, Джонатан Чычу, Мэт Элісан...** Да ўсяго іншага яшчэ і **Аляксандр Паўловіч** нечым атруціўся і ніяк не можа ачомацца ад хваробы. Будзем спадзявацца, што лепшыя часы ў "Зубраў" яшчэ наперадзе, хоць балельшчыкі адразу адрэагавалі на такое выступленне каманды – наведвальнасць "Мінск-Арэны" значна знізілася.

Зрэшты, у гэтым першынстве многія каманды гуляюць, як на шалях. Той жа дзеючы ўладальнік Кубка Гагарына – піцерскі СКА – знаходзіцца ў сярэдзіне турнірнай табліцы, а яго гульня ў мінулым сезоне і зараз – гэта неба і зямля.

А цяпер – навіны па-за гульнёй. У СМІ з'явілася інфармацыя, што хакеісты мінскага «Дынама» напісалі кіраўніку краіны ліст у абарону былога выконваючага абавязкі генеральнага дырэктара клуба Уладзіміра Беражкова. Прэс-служба «Дынама», праўда, пакінула гэта паведамленне без каментарыя.

Тым часам на мінулым тыдні скончыўся двухмесячны тэрмін з моманту затрымання Уладзіміра Беражкова, але, паводле некаторых звестак, тэрмін яго знаходжання пад вартай падоўжаны яшчэ на два месяцы.

**Алесь СІВЫ.**

**P.S.** *ХК "Дынама-Мінск" абвясціў пра скасаванне кантракта з галоўным трэнерам каманды Любамірам Покавічам.*



Адрас рэдакцыі: 220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а. Прыёмная: тэл./факс (017) 3286871. Тэл. рэкламнага аддзела: (017) 3286609 nvonlineinfo@gmail.com http://www.nv-online.info

9 772071 964000 15082

Падпісныя індэксы: 63222 – для індывідуальных падпісчыкаў, 632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ



Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 19.10.2015 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 25450 экз. Заказ №4020.